*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 23 (759) 7 ЧЭРВЕНЯ 2006 г.

## Усе падворкі добрыя, але свой найлепшы!




Трэба было завітаць 3 чэрвеня ў Гарадзенскі гарадскі парк, каб надоўга набрацца эмоцый і добрага настрою. Тут размясціўся "Беларусі падворак" паводле рашэння кіраўніцтва VI-га рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. І жыхары горада, а таксама госці шчырымі апладысментамі сустракалі выступленне кожнага калектыву мастацкай самадзейнасці.

А людзей сабралася шмат. Мо таму, што прывыклі праводзіць вольны час у выхадныя і святочныя дні ў парку, дзе гучыць музыка, наладжваюцца розныя мерапрыемствы як для моладзі, так і для грамадзян больш сталага веку. А тут – наогул фестываль, які праводзіцца раз на два гады! Народу панаехала – процьма! І якой толькі нацыянальнасці не сустрэнеш – грузіны, татары, малдаване, карэйцы, французы, палякі, украінцы, рускія... Каб усіх пералічыць, не хопіць пальцаў на абедзвюх руках. І на свае падворкі запрашаюць ветліва і гасцінна. Як не завітаць, пацікавіцца жыццём нашых жа, беларускіх, грамадзян!

Але найперш – да сваіх. Менавіта адсюль, з гарадскога парку, і пачынаецца адкрыццё падворкаў.

*(Працяг на ст. 10.)*




## Мы за трансляцыю футбольных матчаў па-беларуску

**Заява Сакратарыяту ГА ТБМ імя Ф. Скарыны ад 31.05.2006 г.**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" глыбока заклапочана амаль поўнай адсутнасцю беларускамоўных каментарыяў спартыўных спаборніцтваў на каналах беларускага тэлебачання. Дадзены факт з'яўляецца відавочнай дыскрымінацыяй большасці грамадзян Беларусі, звыш 73% якіх лічаць беларускую мову сваёй роднай.

З нагоды атрымання Беларускай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй эксклюзіўных правоў на трансляцыю матчаў чэмпіянату свету па футболе-2006, Сакратарыят ТБМ патрабуе ад Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі А. Л. Зімоўскага, Дырэктара Дырэкцыі спартыўнага вяшчання Белтэлерадыёкампаніі Б. І. Герстэна і ад Загадчыка аддзела тэлекаментатараў Дырэкцыі спартыўнага вяшчання Белтэлерадыёкампаніі У. М. Навіцкага арганізаваць каментары матчаў чэмпіянату свету, а таксама іншых спартыўных спаборніцтваў на дзяржаўнай беларускай мове.

## 125 гадоў з дня нараджэння Івана Луцкевіча



**ЛУЦКЕВІЧ** Іван Іванавіч (9.6.1881, г. Шаўляй, Літва — 20.8.1919), бел. паліт. дзеяч, археолаг, этнограф, публіцыст. Брат *А. І. Луцкевіча.* Вучыўся ў Лібаўскай (Ліепайскай) і Менскай гімназіях, Маскоўскім археал. ін-це, Пецярбургскім ун-це. Адзін з пачынальнікаў і ідэйных кіраўнікоў бел. культ.-асв., грамадска-паліт. руху на пач. 20 ст. Удзельнічаў у стварэнні *«Круга беларускай народнай прасветы і культуры», Беларускай сацыялістычнай грамады,* газет *"Наша доля", "Наша ніва", "Гоман",* выд-ва «Наша хата» (1908), *Беларускага выдавецкага таварыства* (1913), *Беларускага народнага камітэта* (1915—18), першых бел. школ на Віленшчыне, Гарадзеншчыне, Беласточчыне (1916), Віленскай бел. гімназіі (1919), Бел. навук. т-ва (1918). Збіральнік і даследчык бел. старажытнасцяў. Яго асабістая калекцыя стала асновай *Беларускага музея ў* Вільні. З А. Луцкевічам, В. Ластоўскім і інш. распрацоўваў пытанні дзярж. самавызначэння Беларусі — ад канцэпцыі краёвай аўтаноміі, аднаўлення на канфедэратыўнай аснове дзярж. уніі Беларусі і Літвы (1906—18) да абвяшчэння незалежнай Бел. Нар. Рэспублікі ў яе этнагр. межах. З яго ўдзелам і па яго ініцыятыве пытанне аб нац. самавызначэнні бел. народа ўпершыню прагучала на міжнар. форумах — канферэнцыі сацыяліст. і рэв. партый (Фінляндыя, 1906), Славянскім з'ездзе прагрэс. студэнтаў (Прага, 1908), міжнар. канферэнцыі нацый (Лазана, 1916). Быў прыхільнікам раўнапраўных адносін Беларусі з Расіяй, Польшчай, Украінай, Літвой. Паўплываў на творчы лёс Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, М. Гарэцкага і інш. Аўтар навукова-публіцыст. прац па гісторыі, мастацтве, кніжнай культуры Беларусі. Увёў у навук. ўжытак помнікі старабел. л-ры 16 ст., пісаныя арабскай графікай «Аль-Кітаб» (1920). Памёр у г. Закапанэ (Польшча), перапахаваны ў 1991 у Вільні. У Менску створаны Фонд сац. ініцыятыў і даследаванняў імя братоў Луцкевічаў (1993).

## Генрыху Далідовічу - 60



**ДАЛІДОВІЧ** Генрых Вацлававіч (н. 1.6.1946, в. Янкавічы Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.), бел. пісьменнік. Скончыў БДУ (1968). Настаўнічаў. З 1973 у час. «Полымя», з 1979 нам. гал. рэдактара, з 1991 гал. рэдактар час «Маладосць». Друкуецца з 1966. Першы зб. апавяданняў «Дажджы над вёскай» (1974). Творы Д. адметныя лірызмам, увагай да лобытавых дэталей, дакладным псіхалагізмам. У рамане «Гаспадар-камень» (1984, Літ. прэмія імя І. Мележа 1987), прысвечаным пярэдадню 1-й сусв. вайны, шматбакова паказаў жыццё тагачасных вёскі і горада, няпростыя шляхі нац. інтэлігенцыі, у якой расло ўсведамленне свайго абавяз-ку. У раманах «Пабуджаныя» (1988) і «Свой дом» (1989) побач з героямі, вядомымі з «Гаспадара-каменя», шмат новых персанажаў — удзельнікаў і кіраўнікоў паліт. руху розных кірункаў на Беларусі ў 1917—18. У рамане «Заходнікі» (1992, Дзярж. прэмія Беларусі імя Я.Коласа 1996) створана панарамная карціна жыцця зах.-бел. сялянства і інтэлігенцыі пачынаючы з канца 1940-х г., іх «перавыхаванне», рэпрэсіі, міграцыі. Выступае з літ.-крытычнымі і публіцыст. артыкуламі. На бел. мову пераклаў раман Дж.Ф.Купера «Апошні з магікан».

Працуе ў "Краязнаўчай газеце".





Е. Г. АНДРЭЕВА

# Станаўленне і развіццё нацыянальнай асветы і школы на Беларусі (кастрычнік 1917 – ліпень 1920 гг.)

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Пасля таго, як у сакавіку 1918 г. БНР была абвешчана незалежнай дзяржавай, В. Іваноўскі вярнуўся на Беларусь і увосень гэтага года працаваў на пасадзе Наркама асветы БНР. І гэтую працу лічыў настолькі патрэбнай народу, што нават не пажадаў пакінуць Менск, калі сюды пасля адходу нямецкіх акупантаў уступілі войскі Чырвонай Арміі.

Зусім інакш аднесліся да яго асветніцкай дзейнасці савецкія органы: у пачатку лютага 1919 г. арыштавалі і адвезлі ў Смаленск. Праўда, не надоўга. Пасля вяртання ў Менск ён ізноў уключыўся ў педагагічную дзейнасць: працаваў у пед-інстытуце, арганізаваў выданне падручнікаў.

Неацэнны ўклад у нацыянальна-культурнае Адраджэнне Беларусі ў перыяд нямецкай акупацыі зрабіў Вацлаў Ластоўскі (20.10.1883, фальварк Калеснікі Дзісненскага павету Віленскай губерні – 1938), гісторык, публіцыст, асветнік. У 1916-1917 гг. ён працаваў рэдактарам газеты "Гоман", а з снежня 1919 г. узначаліў Раду міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі В. Ластоўскі выйшаў з ураду БНР. У 1923-27 гг. рэдактар часопіса "Крывіч" (Коўна). З 1927 г. быў прызначаны дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея і загадчыкам кафедры этнаграфіі і беларускай культуры. З 1928 г. стаў акадэмікам і неадменным сакратаром АН БССР. Быў рэпрэсаваны як "нацдэм" і "вораг народа". Растраляны ў 1938 г.

Вацлаў Ластоўскі зрабіў добры падмурак для пляннай дзейнасці асветнікаў-адраджэнцаў 20-х гг. яшчэ ў дарэвалюцыйны перыяд. Ён стварыў спрыяльныя ўмовы Б. Тарашкевічу, А. Смолічу, А. Цвікевічу, Я. Лёсіку, У. Ігнатоўскаму і для напісання падручнікаў. У Вільні ў 1910 г. ён выдаў першы падручнік для школы "Кароткая гісторыя Беларусі". Аўтар зусім праўдзіва сцвярджаў, што беларусам адбудову свайго жыцця, "трэба пачаць з фундаменту, каб будынак быў моцны". А фундаментам ён лічыў багатую гісторыю Бацькаўшчыны. Аўтар з вялікай любоўю і павагай ставіўся да беларускага народа, як самабытнага этнасу шматпакутнай зямлі, якая амаль 200 гадоў была "вечным ваенным боішчам". Адначасова ён паказаў выдатныя дасягненні ў дзяржаўнай палітыцы Вялікага Княства Літоўскага, востра крытыкаваў русіфікатарскую палітыку царызму ў Паўночна-Заходнім краі. Гэтыя педагагічныя ідэі прымалі ў яго творы сацыяльнае гучанне, на якіх маладое пакаленне вучылася грамадскасці і палітычнай культуры. Падручнік для першапачатковай школы В. Ластоўскага меў практычнае значэнне яшчэ і ў тым, што ў ім у даступнай форме паведамлялася пра гісторыю Беларусі ў яскрава і прыгожа напісаных апавяданнях: "З нашай мінуўшчыны", "Князёўна Рагнеда", "Бітва каля Магільна", "Вітаўт і Ягайла" і інш. Увесь змест падручніка пранікнуты ідэяй: ісці ў набыцці гістарычных ведаў ад нацыянальнага да агульначалавечага, што садзейнічала выхаванню ў дзяцей пачуццяў патрыятызму і гонару за сваю Радзіму і асабіста сябе, як суб'екта яе.

Калі на акупаванай немцамі тэрыторыі Віленскай губерні беларуская мова атрымала раўнапраўны з іншымі мовамі статус, і з'явілася магчымасць выдання падручнікаў для беларускіх школ, В. Ластоўскі адгукнуўся на гэта невялічкай па аб'ёму (64 стар.), але вельмі каштоўнай кніжкай "Першае чытанне. Кніжыца для беларускіх дзетак дзеля навукі чытання" (Вільна. 1916), яна складалася з прадмовы, фанетычнага і лексічнага курсаў, тэкстаў рознага зместу і тлумачальнага слоўніка. Тэкставы раздзел "чытанкі" меў асаблівую цікавасць. Ім В. Ластоўскі імкнуўся пашырыць дзіцячы кругагляд, выхаваць любоў да Бацькаўшчыны, да яе прыроды, гісторыі і культуры.

Разнастайнасць жанравага матэрыялу: прыказкі, прымаўкі, загадкі, казкі, лірычныя вершы пра Беларусь – характарызуе асветніцкі кірунак аўтара. Свой педагагічны погляд ён накіраваў галоўным чынам на дзіцячы ўзрост і прапаноўваў, што "далейшая навука чытання" ў шмат чым залежыць ад першапачатковага навучання, у якім трэба звяртаць больш за ўсё ўвагу на развіццё вуснай мовы, на гукавымаўленне, на мілагучнасць мовы, "каб дзеці са слоў настаўніка разумелі, чаго ад іх хочуць". Разуменне вучнем таго, аб чым гаворыць педагог, матывацыйная дзеянні вучняў – вось адно, на думку В.-Ластоўскага, з галоўных педагагічных і метадычных аўтарскіх патрабаванняў.

"Карыстаючыся дыдактычнымі парадамі – ад агульнага да прыватнага, ад вядомага да невядомага—В. Ластоўскі раіць настаўніку пры навучанні пісьменнасці ўжываць тыя навыкі, якімі дзеці ўжо валодаюць. Напрыклад, умение лічыць да дзесяці дапамагала вучням вусна падлічыць зададзеныя літары ў надрукаваным радку. Пры навучанні навыкам пісьма прапанавалася выкарыстоўваць прыродную прыхільнасць дзяцей да малявання". Аўтар даваў шмат карысных і каштоўных метадычных парад пры навучанні мове і чытанню: сур'ёзна ставіцца педагог да размежавання літар і гукаў, умець правесці гукавы аналіз слова, вучыць вымаўлять увесь сказ адразу (замест застарэлага сілабічнага метаду), імкнуцца да свядомага засваення дзецьмі вучэбнага матэрыялу, выкарыстоўваць індывідуальны падыход у навучальна-выхаваўчым працэсе.

Кніга "Першае чытанне..." знаёміла дзяцей з флорай і фаўнай Бацькаўшчыны, вучыла разумець і адчуваць свет прыроды, зазнаць асаблівасці жыцця, стану, з'яў жывёлаў і раслін. У невялічкіх апавяданнях: "Асвоеныя і дзікія зверы", "Як воўкі вучаць сваіх дзяцей", "Што значаць назвы месяцаў", "Зямля – маці карміліца", "Бульба", "Перамены вады", "Чатыры стараны свету", "Сонечныя промні" і іншых – дзеці чэрпалі веды, пашыралі свой кругагляд, узбагачалі светаўспрыманне, бачылі ўзаемасувязь паміж прыродай і чалавекам.

"Першае чытанне" В. Ластоўскага садзейнічала экалагічнаму, духоўнаму, эстэтычнаму і разумоваму выхаванню дзяцей.

Фармаванне ў дзяцей ведаў пра родны край праводзілася двума шляхамі: праз знаёмства з гісторыяй свайго народа (веды даваліся з улікам узроставых асаблівасцяў) і беларускі фальклор, або выхаванне сродкамі этнапедагогікі. Прымаўкі, прыказкі, казкі і іншыя фальклорныя творы выхоўвалі ў дзяцей нацыянальную годнасць, самасвядомасць і любоў да роднай беларускай мовы. А змешчаны на апошніх старонках "Слоўнічак" на 136 слоў адукоўваў іх граматына, лексічна і нават семантычна. Структурнае комплекснае пабудаванне падручніка: змяшчэнне ў ім адначасова лемантара і хрэстаматыі – давала магчымасць выконваць дзве мэты навучання – выхаваўчую і адукацыйную. Лемантар меў шмат вартасцей: пабудаваны па гукавым метадзе; простыя, даступны, з цікавымі практыкаваннямі; непрыкметна "пераходзіць" у чытанку з казкамі, вершамі, артыкуламі пазнавальнага характару (с. 147), навучальнымі парадамі, творамі народна-паэтычнага жанру. Многія вершы і апавяданні В. Ласоўскі напісаў сам. Відаць, гэта была павева часу, калі такія вядомыя беларускія паэты, як К.Каганец, Цётка, Я.Колас і інш., таксама пісалі для дзяцей творы, умела аздабляючы іх гукамі, колерамі і фарбамі роднага краю. Але В.Ластоўскі дзеля гэтага выпрацаваў яшчэ адзін каштоўны кірунак – выхаванне ў падрастаючага пакалення гістарычнай самасвядомасці.

Дзеля схілення настаўнікаў на шырокі шлях нацыянальна-культурнага Адраджэння шмат папрацавалі і іншыя прадстаўнікі беларускай нацыянальна-патрыятычнай інтэлігенцыі, асабліва настаўнікі. Сярод настаўнікаў з'явіўся шэраг сапраўдных змагароў за такое Адраджэнне. Пры іх непасрэдным удзеле напярэдадні і адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачалі стварацца з найбольш нацыянальна-самасвядомых вучняў скаўцкія арганізацыі (упершыню ўзніклі ў Англіі ў 1907 г.; скаўт – англ. "выведнік"). Накшталт такіх аб'яднанняў дзяцей і юнакоў іншых краін Еўропы і ў нас яны мелі яскрава выяўлены ваенна-палітычны, нацыянальна-патрыятычны накірунак. У Менску ініцыятарам стварэння такога роду культурна-асветніцкага таварыства беларускіх скаўтаў (іх яшчэ называлі сагайдакамі) з'явілася "Менская беларуская вучнёўская Грамада", якая да гэтага паспела шмат зрабіць са сваімі сябрамі па вывучэнні роднага краю ў час правядзення экскурсій. Усю працу з вучнямі менская вучнёўская Грамада праводзіла пад лозунгам "Няхай жыве Незалежная Беларусь". Неўзабаве нацыянальна-патрыятычны рух беларускіх дзяцей быў прыпынены, бо ў 1919 г. адбыўся другі з'езд Расійскага камсамола, які выказаўся за роспуск скаўцкіх арганізацый. Яго рашэнні безагаворачна падтрымаў камсамол Беларусі.

Высокай нацыянальнай самасвядомасцю, добрым веданнем задач Адраджэння вызначаліся многія выкладчыкі педагагічных вучылішчаў, настаўніцкіх інстытутаў, якія ўмела пераносілі гэтыя якасці на настрой і дзеянні студэнтаў. І трэба сказаць, што яны з'яўляліся вельмі актыўнымі змагарамі за пераўтварэнне ў жыццё тых прагрэсіўных ідэй, якія некалі былі сфармуляваны нашымі беларускімі студэнтамі, што вучыліся ў Пецярбурзе і тайна выдавалі ў 80-я гады XIX ст. на рускай мове часопіс "Гомон". У траўні 1918 г. пры садзеянні Народнага Сакратарыяту БНР была закладзена "Беларуская студэнцкая "райніца"" з даволі прагрэсіўнымі патрыятычнымі мэтамі, што пераканаўча вынікае з наступных слоў яе адозвы: "З абвяшчэннем незалежнай Рэспублікі Беларусь скінула апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам было накінута на яе маскоўскімі царамі, але не скінута яшчэ нацыянальна-культурнае ярмо, якое калечыць самую душу нашага народа. Нацыянальнае адраджэнне – гэта вайна культур, якая звычайна канчаецца вызваленнем прыдушанай, падняўшай штандар паўстання. У гэтым змаганні патрэбны ні салдаты, а інтэлект і духоўная сілаю Тут патрэбны творы культуры, армія інтэлігенцыі, прынятай святым жаданнем культурнага росквіту для свайго народа!"

Імкненне беларускіх нацыянал-патрыётаў мець у сваім краі школу на роднай адразу ж сустрэла супраціўленне як з боку рускіх шавіністаў, так і польскіх нацыяналістаў. Іх зусім не радавала, што там, дзе доўгі час панавалі рускія і польскія школы, цяпер ствараюцца беларускія. Былі і тады, як сёння, прапановы пытацца ў народа, на якой мове павінны вучыцца на Беларусі дзеці. Вось якую водпаведзь даў ім на пачатку 1918 г. вядомы дзеяч нацыянальна-культурнага Адраджэння, беларускі мовазнавец Язэп Лёсік: "Што значыць народ? Народ цёмны, някультурны, яго трэба навучыць. Ён не можа захацець свае беларускія школы, калі ён яе ніколі ў вочы не бачыў. Як ён можа захацець вучыцца на сваёй мове, калі за яе яго лаялі, бэсцілі, крыўдзілі і за людзей не лічылі ... Народ трэба навучыць, яму трэба паказаць, што покі не запануе ў краю яго наша родная беларуская мова, да таго часу ён будзе бедны, цёмны і галодны. Толькі дэмагог і палітычны шарлатан можа спасылацца на народную цемнату... Дзіўная гэта прывычка ў іншых людзей спасылацца на народ там, дзе гэта саўсім недарэчы, калі хто хоча пабудаваць дом, зрабіць якую машыну, дык ён звычайна звяртаецца да спецыяліста, да тых, хто знаецца па гэтых справах, толькі ў палітыцы – ды ў культурнай працы чамусь звыклі радзіцца з такім знайцам, як цёмны "неасвечаны народ".

А цёмны ён быў у культурных адносінах таму, што ў яго адсутнічала нацыянальная самасвядомасць. Агульнавядома, што сёння пакуль у народа не будзе сфармавана трывалая нацыянальная самасвядомасць (а робіць гэта школа і сям'я) нельга яго выкарыстоўваць як суддзю ў выбары мовы навучання ў школах.

Кінутае напярэдадні і ў час першай сусветнай вайны ў глебу беларускай асветы насенне нацыянальнай школы глыбока прасякнула душы людзей і хвалявала іх нават тады, калі яны па розных прычынах вымушаны былі жыць па-за межамі роднай Бацькаўшчыны. Сказанае датычыла і тых, хто ў час гэтай імперыялістычнай бойкі быў эвакуяваны ў Адэсу. Тут пры губернскім аддзеле народнай асветы існавала беларуская секцыя, якую з 1914 па 1918 г. узначальваў выпускнік Віленскага настаўніцкага інстытута Сцяпан Некрашэвіч. У апошні год яго знаходжання на гэтай пасадзе ў Адэсе функцыянавалі 30 беларускіх пачатковых школ і адна змешаная гімназія.

У баку не стаялі і вайскоўцы Адэсы, выхадцы з Беларусі. Немалую дапамогу ў справе беларускага Адраджэння аказвалі такія асобы, як Антон Баліцкі, які служыў тады камісарам Адэскай Беларускай ваеннай арганізацыі (потым, у 20-я гады ён стане намеснікам і наркамам асветы БССР). Выступаючы 7 кастрычніка 1918 г. у Кіеўскім універсітэце, камісар так выказаў сваю пазіцыю па нацыянальным пытанні: "Мы, беларусы, вялікія патрыёты і любім сваю родную, ***замучаную і аблітую*** крывёй Беларусь". Зразумела, менавіта з такімі беларусамі і атаясамліваў сябе А.Баліцкі. Тую прамову ён закончыў словамі: "Жыве Беларусь і ніколі не загіне". Але не толькі на Украіне ў Адэскай акрузе жылі такія беларусы-патрыёты. У Расіі іх было яшчэ больш. За падзеямі, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі, уважліва сачылі яе супляменнікі, што жылі ў Петраградзе. Тут з 1918 па 1923 г. існавала Беларуская гімназія, у якой выкладаў беларускую мову ўжо добра вядомы пад той час этнограф-фалькларыст Аляксандр Сержпутоўскі ( 1964 – 1940 гг.). У артыкуле "Да пытання аб беларускай арфаграфіі" ( "Чырвоны шлях". Петраград, 1918. № 9-10) ён закрануў адно з найважнейшых пытанняў станаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай школы-правапіс роднай мовы.

Так, за 5 месяцаў першага года пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі апосталы нацыянальна-культурнага Адраджэння Беларусі Ф. Шантыр, Б. Тарашкевіч, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, А. Баліцкі, А. Сержпутоўскі, А. Смоліч, В. Іваноўскі і іншыя патрыёты сваёй зямлі паспелі шмат зрабіць па распрацоўцы канцэпцыі нацыянальнай асветы і школы, надрукаваць падручнік па граматыцы беларускай мовы, стварыць сетку беларускіх школ і падрыхтаваць нямала педагагічных кадраў, якія праводзілі іх ідэю ў жыццё.

# Беларускае пяціборства-V: вынікі і роздум

У Магілёве праведзена "Беларус-кае пяціборства-V". Гэтае інтэлектуальнае спаборніцтва для навучэнцаў старэйшых класаў школ, гімназій і ліцэяў пачынаючы з 2001 года ладзяць абласная арганізацыя ТБМ сумесна з Магілёўскім дзяржаўным універсітэтам імя Аркадзя Куляшова пры падтрымцы грамадскага аб'яднання "Кола сяброў". Спаборніцтва скіравана найперш на тых навучэнцаў, якія маюць схільнасці да матэматычных і прыродазнаўчых навук і вывучэнню гэтых дысцыплін аддаюць большую частку свайго працоўнага часу, эканомячы яго на вывучэнні літаратуры, гісторыі ды іншых "неабавязковых" прадметах. У выніку гэтыя таленавітыя маладыя людзі заканчваюць школу аднабока адукаванымі, маючы прагалы ў найбольш значных для культурнага чалавека галінах. Пацвердзіць гэткія падазрэнні, высветліць масавасць названай з'явы, звярнуць увагу грамадскасці і самога навучэнца на гэтую адукацыйную хібу і крыху выправіць яе – такія мэты ставяць перад сабой арганізатары пяціборства.

Усім, хто прыязджае на абласныя прадметныя алімпіяды, прапануецца ў дадатак паказаць шырыню сваёй адукацыі на спаборніцтве не па адной дысцыпліне, а па пяці – матэматыка, прыродазнаўства, родная мова, літаратура і гісторыя сваёй краіны. Спаборніцтва выклікае цікавасць і кожны раз на заклік арганізатараў пяціборства адгукаюцца тры-чатыры дзесяткі ўдзельнікаў.

На гэты раз у "Беларускім пяціборстве", якое праводзілася пяты раз, узялі ўдзел 26 навучэнцаў з Магілёва, раённых цэнтраў і вёсак Магілёўшчыны і адзін прадстаўнік з Віцебскай вобласці (такім чынам, пяціборства ўпершыню выйшла за межы адной вобласці). Большасць з іх ужо мелі перамогі ў алімпіядах раённага і абласнога ўзроўню па розных прадметах. Вось тэксты заданняў, на выкананне якіх адводзілася сто хвілін.

*<u>Заданне № 1 (матэматыка)</u>: Тры акружыны радыюсаў 15 см, 15 см і 10 см папарна датыкаюцца адна адной знешнім чынам. Вылічыце радыюс акружыны, якая датыкаецца да ўсіх трох дадзеных акружын.*

*<u>Заданне № 2 (гісторыя)</u>: Якія гарады былі сталіцамі дзяржаў, куды ўваходзіў Магілёў на працягу сваёй гісторыі (назва дзяржавы, яе сталіцы, гістарычны перыяд і, магчыма, кароткі гістарычны каментар)?*

*<u>Заданне № 3 (літаратура)</u>:*

*"Гэй ты, князь!<br>Гэй, праслаўны на цэлы бел свет,<br>Не такую задумаў ты думу, –<br>Не дае гуслярам сказу золата цьвет,<br>Белых хорамаў п'яныя шумы.*

*Скурганіў бы душу чырванцом тваім я;<br>Гусьлям, княжа, ня пішуць законаў:<br>Небу справу здае сэрца, думка мая,<br>Сонцу, зорам, арлам толькі роўна.*

*Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць, –<br>Ім пакорны я толькі з гуслямі.<br>Сілен, княжа, караць, галаву сілен зьняць, –<br>Не скуеш толькі дум ланцугамі.*

*Славен, грозен і ты, і твой хорам-астрог,<br>Б'е ад сцен цэгел лёдам зімовым.<br>Сэрца маеш, як гэты цагляны парог,<br>І душу – як скляпоў гэтых сховы..."*

*Хто пеў князю гэтую песню? Пра які твор ідзе гаворка? Хто аўтар твора? Чым заканчваецца твор? Працытуйце яшчэ колькі радкоў з гэтага твора.*

*<u>Заданне № 4 (прыродазнаўства)</u>: Табліца ніжэй паказвае розніцу ўзыхода сонца паміж Мінскам і абласнымі цэнтрамі Беларусі (напрыклад, у Гродне ў студзені сонца ўзыходзіць прыкладна на 13 хвілін пазней, чым у Мінску, а ў Магілёве заўсёды на 10-11 хвілін раней). Патлумачце, чаму ў Магілёве і Гродне гэтыя лічбы амаль не змяняюцца, а ў іншых гарадах змяняюцца досыць прыкметна. Чаму ў студзені сонца ў Магілёве з'яўляецца раней, чым у Віцебску, а ў ліпені ў Віцебску раней, чым у Магілёве (такая ж сітуацыя паміж Гародняй і Бярэсцем)?*

| *Месяцы:* | **I** | **II** | **III** | **IV** | **V** | **VI** | **VII** | **VIII** | **IX** | **X** | **XI** | **XII** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Берасце | 7 | 11 | 16 | 19 | 24 | 27 | 25 | 21 | 18 | 13 | 9 | 5 |
| Віцебск | -4 | -7 | -9 | -16 | -16 | -19 | -18 | -14 | -11 | -8 | -4 | -3 |
| Гомель | -21 | -17 | -13 | -11 | -6 | -5 | -6 | -9 | -12 | -16 | -19 | -22 |
| Гародня | 13 | 14 | 16 | 15 | 17 | 16 | 16 | 16 | 16 | 15 | 15 | 13 |
| Магілёў | -11 | -11 | -10 | -11 | -10 | -11 | -11 | -11 | -10 | -11 | -10 | -11 |

Заданняў чатыры, бо асобнага задання па мове няма. Якасць мовы (і адпаведна пяты бал) вызначаецца па тэксце выкананай працы.

Упершыню ў гісторыі пяціборства перамогу ат-рымала дзяўчына, а не хло-пец, і ўпершыню пераможца не з Магілёва. Дзевяціклас-ніца з Дрыбіна **Святлана Дзе-нісевіч** не адолела матэма-тычнай задачы, але паказала някепскія вынікі ў іншых намінацыях і асабліва ўразіла журы чысцінёй мовы: у яе тэксце не знойдзена ні воднай памылкі, чаго раней не было. Такім чынам, Святлана ўсталявала рэкорд пяціборства па мове. Другое месца заняў **Мачалаў Зміцер** (11 клас абласнога ліцэя № 2). Зміцер таксама ўсталяваў рэкорд пяціборства – ён удзельнічаў у пяціборстве чацвёрты раз і яго настойлівасць нарэшце ўзнагароджана другім прызам. На трэцім месцы **Шастакова Святлана** (11 клас абласнога ліцэя № 3). А адзіны, хто змог рашыць матэматычную задачу і атрымаў спецпрыз за гэтае рашэнне, – Шастакоў Зміцер са Шклова. Годам раней ён таксама быў лепшым у матэматыцы і ў выніку заняў трэцяе месца. Заняць жа зараз прызавое месца Зміцеру перашкодзіла слабае веданне беларускай літаратуры і кепскае валоданне роднай мовай. Спецпрыз за лепшую мову ўручаны Дзенісевіч Святлане, за лепшае веданне беларускай літаратуры – Шастаковай Святлане, за лепшае веданне гісторыі сваёй краіны – Мацвееву Паўлу з пасёлка Балбасава Аршанскага раёна.



Мачалаў Зміцер




Шастакова Святлана




Святлана Дзенісевіч

А цяпер пра сумнае. Пяціборства, на жаль, чарговы раз паказала, што ў беларускіх школах беларускай мове вучаць як замежнай. Калі вучань крыху ведае правілы беларускай граматыкі і можа крыху размаўляць, яму ставяць самыя высокія адзнакі, паказваючы тым самым, што гэтакіх ведаў дастаткова. Патрабаванні да ведання рускай мовы значна вышэйшыя. І атрымоўваецца так, што вучань, які мае аднолькавыя адзнакі па рускай і беларускай мовах, валодае гэтымі мовамі зусім не аднолькава. Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ спрабавала звярнуць увагу упраўлення адукацыі на гэтую неадпаведнасць. У сваім лісце да старшага інспектара ўпраўлення па беларускай і рускай мовах мы прапаноўвалі сумесна абмеркаваць праблему з мэтай пошуку шляхоў яе вырашэння. Але ўпраўленне адукацыі не заўважыла гэтага ліста. Ніякага адказу мы не дачакаліся. Хаця ўпраўленне зразумець можна: праблема не мясцовага маштабу, а агульнадзяржаўная. Таму прапануем задумацца над ёй міністэрству адукацыі.

На жаль, не на высокім узроўні і выкладанне беларускай літаратуры. Сярэдні бал па літаратурным заданні заўсёды (і на гэты раз) сярод самых нізкіх. Праграмны твор Янкі Купалы, працытаваны ў літаратурным заданні "Беларускага пяціборства-V", пазналі толькі 9 чалавек з 26. Замілаванне выклікаюць радкі з адной працы: "Твора я не пазнаў, але радкі мне спадабаліся..." Дасць Бог, можа ён (хоць адзін з удзельнікаў) і перачытае паэму. Калі так, то будзем лічыць, што пяціборства праведзена не дарэмна.

***Міхась Булавацкі,***
***старшыня журы***
***"Беларускага пяціборства".***

# Не шанцуе на Роднае?..

Так, сапраўды нашай Падсвільскай школе не шанцуе ў беларускасці.

Гісторыя ўзнікнення пасёлка, з якой мы імкнемся пазнаёміць школьную моладзь і наведвальнікаў дзіцячай турбазы, пачынаецца з польскіх Кашараў, вайсковага мястэчка, пабудаванага польскімі вайскоўцамі, якія прызваны былі служыць на мяжы "крэсаў усходніх" і савецкай Расеі. Усходняя Беларусь была тады Расеяй, мы – "палякам!" А з верасня 1939 года – "рускімі".

У 60-х гадах у Падсвільскай рускамоўнай школе яшчэ трывала-трымалася роднае слова. Вучань 8-га класа Сяргей Новікаў, які прыехаў з Гомельшчыны ў нашу школу, згадвае, што маладая настаўніца-выпускніца Л.І. Сталярова вяла матэматыку на беларускай. Ён яшчэ ўдакладняў значэнне матэматычных тэрмінаў.

Я ж адразу пастаралася набыць рускамоўныя падручнікі, хоць прыйшла ў Падсвільскую школу з Перадольскай вясковай сямігодкі. Там, праўда, ніхто ніколі не казаў нам пра родную мову як пра найважнейшы патрыятычны элемент нацыянальнай культуры, але мова проста жыла!..

Наступіла 21-е стагоддзе. І сёння, праз 45 гадоў, у Падсвільскай СШ не знойдзеш беларускага слова ў навучальным ужытку і ў выхаваўчых мерапрыемствах, акрамя ляльгуртка. Усе абвесткі, усе стэнды – толькі па адной з дзяржаўных моў – на Яе Вялікасці расейскай. Пабочнага перакладу на беларускую нідзе няма. Калі я ўслых задумалася пра гэта, мне сказала настаўніца гісторыі: "... Паперы і так не хапае, беднасць у школе, якія пераклады ?..".

Ды знайшлася б ... калі б яна запатрабавалася на ідэалагічную сімволіку.

Надзвычай вялікім руплівым, мужным і настойлівым трэба быць сёння, каб нейкім чынам, самастойна трымаць сцяг беларускамоўнасці. Аднак гэта і ёсць найпершая /і сапраўдная/ рыса патрыятызму. Ён жа жыве толькі ў ісціне духоўнай. І з гэтай ісціны выліваецца абарона Айчыны... ад крывадушнасці, ад шэрасці, ад слабасці, ад цямнечы і сляпнечы, ад цынізму і, урэшце, ад вайны!

...Безумоўна, краязнаўчая гутарка пра Падсвілле на прыканцы гэтага навучальнага года вялася школьнікамі не на беларускай мове. Але радасна і тое, што школа паварочваецца тварам да гісторыі роднага кутка. У актавай зале выступалі 18 вучняў-дзевяцікласнікаў. Арганізавалі іх настаўніцы рускай і нямецкай мовы – Аляксандра Уладзіміраўна Завадская і Надзея Мікалаеўна Белавусава, і кожны з удзельнікаў меў нешта добрае сказаць пра мінулыя гады савецкай гісторыі мястэчка. Сапраўды пасёлак вырас ушыркі.

У час заканчэння школы цвітуць сады; тысячы на вуліцах, і на той па якой ідуць сёлетнія выпускнікі; і глядзець на іх радасна і трывожна...

Так, у іхняй свядомасці яшчэ не пасялілася выразная думка, якая раскрывае сэнс паняцця – Любоў, Айчына. Яны інтуітыўна адчуваюць Родны Дом. І, калі адлятуцца, некалі прыдзе да іх настальгія. Веру, што і разуменне прыналежнасці да Беларусі. Калі не праз чысціню роднага слова, то праз нейкія асобныя гукі, праз рысы роднага. Бо мы жывём на адвеку беларускай зямлі. На адной і той жа тэрыторыі, якая называлася і Полацкім княствам, і Вялікім Княствам Літоўскім, і Рэччу Паспалітай, і Расеяй /Маскоўскай імперыяй/ і бальшавіцкай Расеяй, і Польшчай Пілсудскаўскай, і Беларуссю СССР-аўскай. Аднак мы ўсёроўна адчуваем, што мы ёсць. Годнасць не дазваляе адмовіцца ад сябе. Там, дзе яна ўзгадавана на Любові, на адказнасці за сябе, за Бога ў сабе, па старанні самазахавацца, самастойна выявіць талент, прыгажосць, менавіта, праз Роднае.

Як жа Падсвільскай школе засвоіць гэты сэнс для свайго духоўнага ўзвышэння?

***Марыя Баравік,***
***г. п. Падсвілле, Глыбоцкі раён.***

# Успаміны Эдварда Вайніловіча

**(Працяг матэрыялаў прысвечаных беатыфікацыі фундатара касцёла Св. Сымона і Алены ў Менску Эдварда Вайніловіча)**

*(Працяг, пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У стаўленні апошняга жадаю працытаваць анекдот, аўтарам якога быў князь Лявон Радзівіл, царскі ад'ютант, адмыслова заклікаены пад Плеўну для забаўкі імператара Аляксандра, моцна прыгнечанага ваеннымі паразамі.

Бедны князь змушаны быў у Радзівілмонтах, не пазіраючы на свае гады, вучыцца верхавой яздзе, каб удзельнічаць у парадзе ў свіце імператара і, жадаў ён таго або не жадаў, апынуўся ў вайсковым абозе пад Плеўнай, дзе звычайна складаў партыю ў картачнай гульні Найяснейшага ў шатры, у якім для прыкладу іншым сам імператар жыў. Пры абозе знаходзіўся малады ручны асёл, якога вельмі любіў імператар і дазваляў яму заходзіць у шацёр. Аднойчы падчас гульні асёл раптам прапез у шацёр і, падыйшоўшы да гульцоў, пысай змяшаў карты. Імператар вельмі знерваваўся, але князь Лявон развесяліў яго словамі: "Усім тут цяжка - жыве тут толькі гэты асёл і князь Чаркаскі", які не маючы магчымасці дачакацца ўступлення ў пасаду, быў, гаворачы па-руску "праздношатающимся" (лайдаком).

Нягледзячы на ціск з боку маёй маці і дзядзькоў Тадэвуша і Люцыяна працягу генеалагічнага дрэва даводзілася яшчэ доўга чакаць: я толькі ў 35 гадоў падумаў аб жаніцьбе, узяўшы шлюб з суседкай Алімпіяй Узлоўскай, адзінай дачкой Марка і Мацільды Вайніловічаў-Узлоўскіх. Пасля двух гадоў майго шлюбнага жыцця бацькі маёй жонкі аддалі мне гаспадарку ў сваім родавым маёнтку Боркі за тры мілі ад Савічаў, мая нагрузка павялічылася, бо гэты даволі вялікі маёнтак стагоддзямі пераходзіў ад арандатара да арандатара і ўяўляў маркотную карціну занядбанасці будынкаў і зямель. Колькі энергіі, сіл, працы і капіталу я ўклаў, і не ў маю карысць гэта пайшло, але так жадаў Пан Бог.

Вернемся да больш агульных пытанняў. Наш край пасля падзей 1863 года зазнаў не толькі палітычны, але і эканамічны прыгнёт. Калі я яшчэ хадзіў у школу, маршалкам быў Вайніловіч, паветовым скарбнікам быў Рассудоўскі, старшынём суда Аколаў, суддзём - Чарняўскі, чальцом апекі - Рынтоўт, спраўнікам - Скродскі, пасярэднікі сельскія - усё гэта былі каталікі. Калі паміж імі выпадкова сустракаўся хто-небудзь з праваслаўных, - гэта быў мясцовы жыхар, вельмі добра дасведчаны ў патрэбах мясцовага насельніцтва, і які разумеў яго настрой. Калі ў выніку няўдалага заклiку "Народнага ўраду" усе каталіцкія службоўцы падалі ў адстаўку, уяўляючы, што такім чынам паставяць у бязвыхаднае становішча расійскі ўрад, на самай справе атрымалася, што на наш няшчасны Край, як на лёгкую здабычу, лінула цэлая зграя, якая ў большасці сваёй складалася з не самых лепшых прадстаўнікоў рускага грамадства, захопліваючы пасады, нават выбарныя. Паміж тымі, якія звалі сябе "дзеячамі", знаходзіліся і людзі ідэйныя, але такія прыносілі больш шкоды, бо стараліся прышчапіць насельніцтву нігілізм і сацыялізм, прынесеныя з Усходу, чаму насельніцтва нашага Краю давала адпор.

Асноўная маса маладушных і больш старэйшых функцыянераў засталася без спраў. Ні адзін каталік не мог заняць дзяржаўную пасаду, а калі хто і застаўся на пасадзе, то на самым нізкім узроўні, трываў усякага роду пагардлівасць і пакуты дзеля кавалка хлеба.

Такім чынам, уся справа сялянскай рэформы, пачагай лепшымі сіламі Краю, да справы ажыццяўлення якой далучыліся самыя перадавыя, з добрымі намерамі, землеўладальнікі як "міравыя пасярэднікі", ужо ў сваім зародку была скажоная. Толькі дзіву даешся і спісваеш на добры характар нашага беларускага народа тое, што ён так доўга супраціўіўся ўсім гэтым падрыўным тэорыям і захоўваў грамадскі парадак і традыцыі.

Наша мясцовая шляхта пасля падзей 1863 года была поўнасцю адхіленая ад удзелу ў грамадскім жыцці і, жадаючы таго або не, змушаная была вярнуцца да зямлі або шукаць сябе ў незалежных прафесіях, і трэба адзначыць, што паказала вялікую жыццяздольнасць. Марудна, вельмі марудна, нягледзячы на тое, што ў Краі перакрыжаваліся палітычныя і эканамічныя плыні ў сувязі з эканамічным пераваротам, выкліканым разняволеннем сялян, маёнткі пачалі вызваляцца ад запазычанасцяў і ўмацоўваць дабрабыт. Нават указ ад 10 снежня 1865 г., які забараняў каталікам набываць зямлю, умацоўваў тых, хто на гэтай зямлі сядзеў, бо кожны разумеў, што калі пазбавіцца гэтай зямлі, то больш ніколі яе не ўбачыць.

Пазбавіцца зямлі лічылася антынародным грахом, бывалі выпадкі, калі нават не вельмі заможныя людзі аддавалі перавагу таму, каб адмовіцца ад спагнання прадстаўленых у доўг сум, чым прымусіць даўжніка прадаць нават некалькі дзесяцін зямлі.

Жыццё гэтае было, калі можна так сказаць, дзеля "хлеба паўсядзённага" без далейшых імкненняў, без усякай грамадскай працы, без арганізацыі нават агульнай абароны эканамічнага быцця і гэтую агульную апатыю разарвала стварэнне Сельскагаспадарчага Таварыства ў Менску.

"Менскае Сельскагаспадарчае Таварыства" паўстала не па ініцыятыве мясцовых землеўладальнікаў, а наадварот, яно мела сваёй мэтай аб'яднаць працу і ўплыў прыбылых на менскую зямлю новых грамадзян Расіі, уладальнікаў канфіскаваных маёнткаў, каб агульнымі сіламі выцесніць з маёнткаў бацькоў гэтай зямлі ў сувязі з паўстаннем 1863 г. і атрымаць свабоду, выключныя правы і кантрыбуцыі за ліквідаваныя маёнткі. Але выйшла інакш.

"Менскае Сельскагаспадарчае Таварыства" было створана 20 жніўня 1876 г. тагачасным Міністрам Унутраных спраў Л.З. Макавым, які атрымаў канфіскаваны маёнтак Блонь (Мар'іну Горку) і Навасёлкі Ігуменскага павету недалёка ад Менска. Міністр, жадаючы быць піянерам расійскай культуры на Меншчыне, зацвердзіў, што толькі асобы расійскага паходжання і тагачасная наменклатура могуць быць чальцамі гэтага таварыства. Паколькі Яго "Превосходительство" быў ініцыятарам, то і кожны, хто насіў мундзір, лічыў сябе абавязаным запісацца ў сябры Таварыства. Адзін-два разы ў год скліканіся агульныя зборы. Каб падкрэсліць прыналежнасць Таварыствы да сельскагаспадарчай галіны, у залу ўносіліся драўляная барана і саха, таму што старшыні і чальцы розных "палат" і "присутственных" месцаў пра сельскую гаспадарку мала ведалі, гэтыя праблемы іх не хвалявалі; яны ведалі толькі, што Леў Савіч Макаў гэтага жадае, і што Ў. І. Паўлаў, губернскі маршалак па прызначэнні, старшынствуе на гэтым зборы - гэтага было досыць. Як такіх, сяброўскіх унёскаў не існавала, таму на якія-небудзь мерапрыемствы сакратар не меў магчымасці знайсці нават некалькі сотняў рублёў. Таварыства пападупадала. Узважыўшы ўсё гэта, У. І. Паўлаў, былы самым буйным землеўладальнікам у Тамбоўскай губерні, хоць і пачынаў, сваю кар'еру ў Вільні пры Мураўёве, але, не маючы нацыяналістычных забабонаў, прызнаў, што так далей ісці і працаваць з карысцю ў Краі, ігнаруючы яго сілы, немагчыма. Усё ўзважыўшы, ён заклікаў мясцовых грамадзян у сябры Таварыства. Пры абмежаваннях статуту, аб якіх я згадаў вышэй, закліканыя спачатку вагаліся з прыняццем гэтых прапаноў, але пачуццё неабходнасці наяўнасці нейкай арганізацыі, нейкага аб'яднання, нейкай грамадскай працы перадужала, і пасля ўсеагульнай згоды закліканыя сталі чальцамі "Менскага Сельскагаспадарчага Таварыства". Першымі былі закліканы: Лявон Ваньковіч, былы менскі маршалак па прызначэнні, Віктар Свіда, Аляксандр Скірмунт, лекар Зыгмунт Свяніцкі і я. Гэта адбылося ў 1878 г., праз 2 гады пасля стварэння Таварыства. Такім чынам, першы лёд быў зламаны, параграф у стаўленні нацыянальнай прыналежнасці чальцоў у новым Статуце быў апушчаны, мундзіры паступова пачалі знікаць, а на зборах усё часцей пачалі з'яўляцца сапраўдныя сельскія гаспадары, і колькасць чальцоў усё павялічвалася: калі ў 1878 г. іх налічвалася 64 чалавека, то ў 1901 г. іх было ўжо 675.

Гісторыя першага 25-годдзя Таварыствы ў сувязі з святкаваннем гэтага юбілею вельмі добрасумленна апрацавана адным з відных чальцоў Таварыства Баляславам Грабоўскім у 1901 г. У далейшым успамінаць буду толькі аб самых істотных асабліасцях і падзеях з жыцця Таварыства, якія ў брашуры Грабоўскага не згаданыя, альбо якія адбыліся пасля 1901 г.

У канцы валадарання Аляксандра II, калі пад уплывам непазбежнасці плыні падзей азначыўся некаторы паварот да рэакцыйных плыняў і ліберальнае міністэрства Лорыс-Мелікава ўзяло ў свае рукі стырно кіравання дзяржавай, пачалі падумваць аб крышталізацыі ў грамадскай свядомасці вызначаных элементаў канстытуцыйнага ладу, пра які то там, то тут пачалі пагаворваць у земскіх зборах Расіі. І марудна, асцярожна пачалі заклікаць да жыцця "акруговыя з'езды", на першых парах абавязаныя падумаць хоць бы пра патрэбы сельскай гаспадаркі ў дзяржаве. Акругі гэтыя ствараліся вельмі скрупулёзна, каб іх межы ні ў якім разе не супадалі з вызначанымі аўтаномнымі межамі правінцый. Так Літва была далучаная да Прыбалтыйскай губерні на з'ездзе ў Рызе, а губерні Менская, Магілёўская, Смаленская і Калужская былі аб'яднаны ў пятую акругу са з'ездам у Смаленску. На такія з'езды, т.зв. земскія губерні высылалі да двух дэлегатаў, а Менская і Магілёўская губерні земстваў не мелі, таму тут было прапанавана дэлегатаў абраць. Гэта адбывалася ў студзені 1881 г. Нягледзячы на тое, што ў Таварыствах у тыя поры колькасць чальцоў з Расіі была пераважнай, і паколькі ўсё гэта прадстаўніцтва было заражана адпаведным лібералізмам, яны станоўчых вынікаў не давалі. Ад Менскай губерні быў абраны Віктар Свіда і я. "Рускія мундзіры" ездзіць на з'езды жадання не мелі.

Гэтае абранне было для мяне вельмі ганаровым, мне было ўсяго 33 гады і з'явіцца ў гэтым веку на з'езд як прадстаўніку адной з найбуйных губерняў было вялікім гонарам. Адкрыццё з'езду было прызначанае на 25 студзеня 1881 г. Па дарозе я заехаў у Смаленск да Невіна ў маёнтак Свіды, ён не паехаў, і я з'явіўся ў Смаленск адзін. Памятаю - гэта было ўвечар. У тэатры ішоў спектакль " Рэвізор", я паспяшаўся ў тэатр. Маю ўвагу прыцягнула ложа з крэсламі, упрыгожанымі мітрай. Гэта была ложа нявесткі высокашаноўнага Петраградскага генерал-губернатара, князя Італіі, графа Рымніцкага.

Кіраваў ён яшчэ перад замахам Каракозава. Рэдка хто з выгнаннікаў (калі толькі вывозіўся ў выгнанне праз сталіцу) не скарыстаўся яго апекай. У мяне былі таварышы, звязаныя з паўстаннем, якіх праследавала паліцыя. Яны ішлі да яго, прызнаваліся ў сваіх злачынствах, і князь, узяўшы з іх слова ў далейшым не прымаць удзелу ў змовах, прымаў іх да сябе на службу ў сваю канцылярыю, што ім забяспечвала поўную бяспеку. Свайго слова яны не парушалі. У князёўны ў ложы прысутнічаў тагачасны прэзідэнт горада і старшыня Сельскагаспадарчага Таварыства А. Энгельгардт, тэатральныя крэслы былі запоўненыя чальцамі Таварыствы і дэлегатамі з'езду. Гэта моцна ўзбуджала публіку...

Калі прыйшоў час рэгістрацыі, я змушаны быў прадставіць мясцовым чальцам з'езду, спіс якіх мне даслалі ў гасцініцу. Пачаў з губернатара Тамаза, губернскага маршалка, князя Сярэбранага-Аўчыны-Абаленскага, вельмі сімпатычнага дзядка, тыповага джэнтльмена і сапраўднага арыстакрата. Чальцоў з'езду было больш за 30-ць, большасць з іх былі па прызначэнні, добранадзейнасць рашэнняў з'езду была загадзя забяспечаная. Здзівіла мяне адна асаблівасць - маса прозвішчаў нямецкага паходжання, напрыклад, бацька і сын Энгельгардты, Смаленскі маршалак Гернгрос, Горан, Тылер, Эрнротх, Цыгель, Барталамей і т.д. Мне тлумачылі, што гэта сем'і мясцовыя, паходжання яшчэ часоў Івана Грознага, з'яўляюцца перасяленцамі.

Абранымі дэлегатамі з'езду былі: з Смаленска - Энгельгардт і Ў.Б. Гудзевіч, з Магілёва - Ал. Сенажэнскі і Л. Мянжынскі, з Калугі - М. Сухадольскі, з Менска - Э. Вайніловіч. На першым паседжанні, якое праходзіла ў салоне шляхецкага дома, упрыгожанага патрыятычнай карцінай аблогі Смаленска 1812 г., А. Энгельгардтам было паднята пытанне: "Паколькі сельскагаспадарчыя справы цесна звязаныя з дзяржаўным ладам, устае пытанне, ці можна будзе пераносіць дэбаты і на глебу агульных недамаганняў дзяржавы?" Гэтае пытанне з абурэннем было адхілены старшынём-губернатарам дэлегатам міністрам Цітовым. Такое становішча сп. Энгельгардт апратэставаў, перастаў наведваць паседжанні і з'ехаў з князёўнай у Петраград.

На гэтым з'ездзе ўпершыню я сустрэўся ўжо не з расійскай бюракратыяй, як у сваім Краі, але з прадстаўнікамі Расійскага Земства, якое зрабіла на мяне станоўчае ўражанне. На іншых пазіцыях панаваў Платон Энгельгардт, чалавек старэйшага веку, высокаадукаваны, ліберальнага толку

Мне тыя "земцы" пастаянна паўтаралі: "Просім не судзіць нас па тых масах службоўцаў, якія працуюць у вас, прыстойны чалавек на чужыя слёзы не паедзе". Я і сам на сабе прачуў іх зычлівасць, калі па даручэнні Менскага Сельскагаспадарчага Таварыства падняў пытанне іпатэчнага крэдыту і губернатар запратэставаў, заявіўшы, што гэта пытанні не з'езду, а чыста мясцовага характару. Слова мне не даў, што выклікала абурэнне вялікага ліку дэлегатаў, якія заявілі, што прадстаўнік Менскай губерні не вінаваты ў тым, што ўрад далучыў яго губерню да акругі, якая нічога агульнага з справамі Меншчыны не мае, і таму менскі дэлегат павінен быць выслуханы.

Пачалася мітусня, губернатар змушаны быў перапыніць паседжанне, праз пасярэдніцтва князя Абаленскага прынёс выбачэнні і пасля перапынку даў мне слова.

*(Працяг у наступных нумарах.)*





# VI з'езд БАЖ

2 чэрвеня ў Менску адбыўся чарговы справа-здачна-выбарчы З'езд грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў". З'езд пераабраў кіраўніцтва арганізацыі, а таксама прыняў шэраг важных дакументаў. Старшынёй арганізацыі засталася Жанна Літвіна.



*У зале з'езду*

На з'ездзе прысутнічалі 79 дэлегатаў з 82 вылучаных. На самым пачатку сабраныя ўшанавалі памяць сваіх калегаў, якія пайшлі з жыцця за 3 гады, што мінулі з часу правядзення апошняга з'езду: Веранікі Чаркасавай, Васіля Гродпікава, Анатоля Ярася, Карласа Шэрмана, Віктара Шавялевіча, Алега Дунаеўскага, Дзмітрыя Кісяля, Пятра Нагнібяды.



*Выступае Жана Літвіна*

З'езд заслухаў справаздачы кіраўніцтва БАЖ, кантрольна-рэвізійнай камісіі, камісіі па этыцы, а таксама даў магчымасць выказацца прысутным. Па выніках працы былі прынятыя некалькі дакументаў. Сярод іх - зварот да журналісцкай супольнасці "Журналістыка - прафесія сумленных і адказных" (Маніфест сумлення), у якім дэлегаты заклікалі калегаў "усвядоміць усю глыбіню адказнасці, якую журналісты нясуць перад грамадствам", і "абвясцілі сваю адданасць прынцыпам прафесійнай журналістыкі і журналісцкай этыкі". Ак-рамя гэтага, дэлегаты большасцю галасоў вырашылі рэкамендаваць сябрам БАЖ у якасці "высокага арыентыру прафесійных паводзінаў" Кодэкс журналісцкай этыкі, распрацаваны яшчэ да мінулага з'езду.

Шляхам адкрытага галасавання З'езд абраў новыя кіраўнічыя органы арганізацыі. Дэлегаты адзінагалосна падтрымалі прапанову аднаго з дэлегатаў і пераабралі на пасаду кіраўніка арганізацыі Жанну Літвіну. Паўнамоцтвы двух намеснікаў старшыні БАЖ - Андрэя Бастунца і Таццяны Мельнічук - былі працягнутыя; таксама былі абраныя на пасаду намеснікаў Аляксандр Старыкевіч і Аліна Суравец.

Дэлегаты абралі Праўленне арганізацыі, у якое ўвайшлі старшыня БАЖ і яе намеснікі, а таксама Эдуард Мельнікаў, Міхаіл Пастухоў, Вячаслаў Хадасоўскі, Сяргей Вазняк, Алёна Андрэева, Аляксандр Класкоўскі, Аляксандр Тамковіч, Уладзімір Дзюба. У Раду арганізацыі ўвайшлі 39 чалавек, сярод якіх - усе кіраўнікі філіяў БАЖ, а таксама такія вядомыя журналісты, як Юлія Слуцкая, Святлана Калінкіна, Юрась Карманаў, Анатоль Гуляеў, Андрэй Дынько і іншыя. Была абраная кантрольна-рэвізійная камісія і камісія па этыцы, якую зноў узначаліў Сяргей Законнікаў.

Дэлегаты прынялі змены ў Статут арганізацыі.

На з'ездзе таксама адбылася прэзентацыя кнігі Аляксандра Тамковіча "Лёсы".

*Прэс-служба ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".*

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Жанну Літвіну і новае кіраўніцтва Беларускай Асацыяцыі Журналістаў з абраннем на адказныя і турботныя пасады.**

# "Шляхі нацыяльнага адраджэння: беларуская і чэшская мадэлі"

Факультэт гуманітарных даследаванняў сумесна з Кафедрай славістычных і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Філасофскага факультэта Карлавага універсітэта пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Чэшскай рэспублікі ладзяць **4–6 ліпеня 2006** г. у Празе (Чэшская рэспубліка) Міжнародную навуковую канферэнцыю **"Шляхі нацыяльнага адраджэння: беларуская і чэшская мадэлі".**

Мэтай канферэнцыі з'яўляецца параўнанне і аналіз працэсаў нацыянальнага адраджэння ў Беларусі і Чэхіі ў XIX - пачатку XX стст., абмеркаванне заканамернасцяў і асаблівасцяў нацыянальных рухаў чэхаў і беларусаў, а таксама актывізацыя супрацоўніцтва паміж чэшскімі і беларускімі навукоўцамі. Акрамя беларускіх і чэшскіх даследчыкаў у канферэнцыі прымуць удзел таксама спецыялісты з Літвы, Германіі і Польшчы.

Важным элементам канферэнцыі будзе параўнанне зместу чэшскай і беларускай супольнасцяў і звенняў, што іх звязвалі (напрыклад, значэнне мовы, гістарычнай свядомасці і г. д).

На канферэнцыі будуць абмяркоўвацца наступныя пытанні:

1. Параўнанне і аналіз працэсаў нацыянальных рухаў у Беларусі і Чэхіі.
2. Роля суседніх народаў (палякі, немцы, рускія і інш.) у працэсах нацыянальна-культурнага Адраджэння чэхаў і беларусаў.
3. Прычыны актывізацыі нацыянальных працэсаў сярод чэхаў і беларусаў.
4. Пошук нацыянальнай ідэі і асаблівасці нацыянальнай ідэалогіі.
5. Працэс стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці
6. Беларуска-чэшскія культурныя і палітычныя сувязі.

Пасля правядзення канферэнцыі плануецца выданне зборніка матэрыялаў на чэшскай і рускай мовах.

*Наш кар.*



**3 ліпеня 2006 года** рэдакцыя "Нашага слова" ТБМ сумесна з Беларускім саюзам фалькларыстаў пачынае выданне штомесячнага блока ў тыднёвіку пад назвай

**"Фальклорна-краязнаўчы тур" (далей ФКТ).**



На 4-х старонках яго будуць друкавацца навейшыя матэрыялы, датычныя ўсіх разнастайных бакоў развіцця турызму: урадавыя дакументы, экскурсійныя тэксты, маршруты-карты тураў, пашыраныя анатацыі аб аб'ектах наведвання, навучальныя праграмы, фатаграфіі, ілюстрацыі і шматлікія іншыя турыстычныя матэрыялы).

Вы знойдзеце тут фальклорна-краязнаўчае забеспячэнне рэгіянальных тураў (краязнаўчыя музеі і дамы фальклору, асяродкі традыцыйнай рэгіянальнай культуры, фальклорныя мясцовыя калектывы, інфармацыя аб краязнаўцах і носьбітах мясцовых традыцый старшага ўзросту, святы, абрады, аўдыёзапісы і відэафільмы і інш.)

(глядзіце іх папярэдне на сайце: **www.folkndl.bsu.by** і пасылайце запыты па **e-mail:folk_litsvinka@tut.by** і тлф. 2-276-276; мб.776-25-41)

Асобныя выпускі ФКТ будуць прысвечаны спачатку 118 раёнам Беларусі, а пазней – Мінску, прызнаным ЮНЕСКА аб'ектам сусветнага значэння, абласным цэнтрам і старажытным мястэчкам, Нацыянальным паркам, запаведнікам, заказнікам і іншым ахоўваным тэрыторыям.

У першым з іх будзе шматстайна раскрыта адна з найбольш магчымых турыстычных экскурсій **па Лідчыне.**

У прапанаваных турах першасная ўвага будзе адводзіцца ўязному і вясковаму турызму.

У блоку вы знойдзеце неабходныя кансультацыі па забеспячэнні тураў камп'ютарнай і відэатэхнікай (гл.сайт: **www.alta-tech.by** ).

Шчыра запрашаем да ўдзелу у падрыхтоўцы ФКТ супрацоўнікаў турфірм, экскурсаводаў і менеджараў турызму, выкладчыкаў і студэнтаў навучальных устаноў (Вышэйшай школы турызму БДУ і БДЭУ і інш.), навукоўцаў, метадыстаў па фальклору і краязнаўцаў у раёнах і ўсіх прыхільнікаў і знаўцаў самабытных мясцовых традыцый нашага краю.

У перспектыве выпускі ФКТ будуць выдадзены багата ілюстраванай асобнай кнігай.

**Васіль Ліцьвінка і Станіслаў Суднік.**

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства! Пачалася падпіска на 2-е паўгоддзе 2006 года. Нашая газета ў новым каталогу знаходзіцца на ст. 112. Цана падпіскі практычна не не павялічылася і складае: на адзін месяц - 1290 руб., на тры месяцы - 3870 руб., на шэсць месяцаў - 7740 руб. У час, калі з продажам у шапіках "Саюздруку" у нас перыядычна ўзнікаюць праблемы, падпіска найбольш спакойны і надзейны спосаб штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету "Наша слова".

Будзьце з намі, і вы будзеце ў цэнтры падзей, якія адбываюцца ва ўсім беларускамоўным спектры Беларусі і замежжа.

РП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі 7740 руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На2006 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

**Каму** (прозвішча,ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

Ганна Мар'я Келяк

# ПРА КРЭСАВЫ ГЕРБАРЫЙ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Да нашых дзён захавалася яшчэ некалькі іншых гербарыяў Э. Ажэшкі, якія хоць і маюць такую назву, але з'яўляюцца мастацкімі батанічнымі альбомамі, кампазіцыямі, калажамі, якія выкарыстоўваюць раслінную сыравіну. Адзін з іх знаходзіцца каля Лондана. Піша пра яго ў сваёй кнізе Крыстына Калінская. На след гербарыя ў 80-гадах мінулага стагоддзя, натрапіла Ядвіга Рдултоўская. Знайшла яго каля Лондана ў кляштарным музеі польскіх манахаў - айцоў мар'янаў.

З ліста інж. Генрыха Ліпенскага (1997), ганаровага захавальніка музея айцоў мар'янаў у Оксане каля Лондана, да Яна Маеўскага даведваемся, што: *"...Гербарый поўны (без якіх-небудзь заганаў), апраўлены ў зялёную тканіну і ўключае ў сябе 33 старонкі з цвёрдага картону. Фон кожнай старонкі эстэтычна падабраны па колеру да кожнай кветкі, травы ці ліста. Аправа гербарыя зусім гладкая і не мае ніякага апісання ці назвы. Прысвячэнне на адвароце абкладкі гучыць: "Люцыісі і Юзафу Катарбінскім - Эліза Ажэшка ". Прозвішча Катарбінскіх было вядомым у Лондане і гербарый, хутчэй за ўсё, быў калісьці перададзены членам сям 'і, на жаль, не ведаем пра кантакт з нашчадкамі гэтай сям 'і".* Гэтая калекцыя ўключае ў сябе прыгожыя каляровыя кампазіцыі, створаныя з засушаных кветак, траваў, лістоў. Няма аднак, акрамя прысвячэння, ніякіх надпісаў. З-за гэтага ён не з'яўляецца гербарыем, але толькі кампазіцыяй з кветак у форме альбому.

Чарговы гербарый-альбом знаходзіцца цяпер ў калекцыях уроцлаўскага Асалінэўм. Як даведваемся, гербарый гэты ў 1809 г. Эліза Ажэшка ахвяравала камітэту дапамогі для ахвяр наваднення, для галадаючых галіцыйскіх сялянаў. На праведзеным з дабрачыннай мэтай аўкцыёне, быў куплены для горада Львова за суму 362 злотых. На альбоме знаходзіцца надпіс: *"Ідзіце любімыя наднёманскія кветачкі, на Пэлтву і прасіце там людзей уплывовых кавалачак хлеба для бедных і галодных. 1890; Гродна. Эліза Ажэшка."*

На першай старонцы альбома аўтарка напісала: *"Для сябе гэта рабіла; дзякую тым, з чыёй дапамогай гэтую працу магу прысвяціць маім суайчыннікам, якія церпяць ".*

Далейшыя лёсы гербарыя невядомыя, аж да 1960 г., калі "быў знойдзены ў прыватных калекцыях у Львове і выкуплены з узносаў "групы асоб", а пасля аддадзены ў дэпазіт праф. Габрыеля Сакальніцкага (які жыў у Львове-Бжухавіцах ). У лісце ад 17 траўня 1965 г. праф. Сакальніцкага да дырэктара Асалінэўм, Юзафа Шчэпанца, прадстаўлена дакладная характарыстыка альбома і прапановы, якія датычаць фармальнага аблягчэння перавозу яго ў Польшчу.

Нататка з інвентара Бібліятэкі Асалінэўм наступнага зместу:

*"Апраўлены ў зялёны аксаміт. З двюох магутных спражак у цэласці верхняя. Гербарый уключае ў сябе наднёманскія расліны, наклееныя дэкаратыўна. На першым лісце зварот да жыхароў Львова дапамагчы бедным ".* Ванда Вайткевіч-Рок падае, што: *"на картонных лістах, якія абклеены каляровым матэрыялам, ствараючым фон, фіялетавы, зялёны, карычневы, бэжавы, сіні — мастацка наклеены кампазіцыі кветак. Заўсёды злучалася некалькі відаў раслін, часам з выкарыстаннем лістоў з дрэў і кустоў... Трэба прызнаць, што гербарый зроблены прыгожа і старанна ".*

Падобныя два тамы траўных кампазіцый знаходзяцца ў Музеі літаратуры імя А. Міцкевіча ў Варшаве. Ствараюць яе засушаныя кветкі і астатнія часткі раслінаў, мастацка ўкладзеныя ў форме карцінаў.

Том 1 мае прысвячэнне: *"Станіславу Нахорскаму - Эліза Ажэшка"*, а 2 том прысвячаецца: *"Пані Гэлене Паўлікоўскай".*

Том 1 складаецца з 36 пранумараваных лістоў, а том 2 мае 40 непранумараваных. Кожная старонка мае падкладку з часта шоўкавага, рознакаляровага матэрыялу: чырвонага, сіняга, фіялетавага, зялёнага з рознымі адценнямі і г.д. На лістах, з вялікім густам і пачуццём эстэтыкі размешчаныя засушаныя кветкава-раслінныя кампазіцыі.

У Гародні, у гарадзе Элізы Ажэшкі, захавалася да нашых дзён некалькі фларыстычных абразоў-кампазіцый. Гістарычна-археалагічны музей мае альбом з раслінамі, які выкананы пісьменніцай. Калекцыя ўключае ў сябе 25 лістоў з тонкага картону, які ўзяты ў рамку паяском залатога колеру. На кожным лісце знаходзіцца раслінная кампазіцыя. Акрамя таго Аптэка-музей ў Гародні ў 1997 г. атрымала ў дар восем падобных, незалежных лістоў. У Музеі памяці Элізы Ажэшкі, у доме пісьменніцы ў Гародні, захаваўся "траўны" абраз, апошнім часам раздзелены на тры адрозныя кампазіцыі.



Траўная кампазіцыя Э. Ажэшкі з Музея літаратуры імя А. Міцкевіча ў Варшаве



Траўная кампазіцыя Э. Ажэшкі з Музея літаратуры імя А. Міцкевіча ў Варшаве

### Этнаграфічныя захапленні ў святле навуковых тэндэнцый 19 ст.

Народазнаўчыя захапленні Элізы Ажэшкі былі характэрнымі для гэтага часу. Пачатак народазнаўчых інтарэсаў на польскіх землях прыпадыс на канец 18 стагоддзя, а іх развіццё ахоплівае 19 стагоддзе. Прадвеснікам іх у Польшчы лічыцца Гуга Калантай, а дынамічным дзейным польскім цэнтрам развіцця батанікі лічыцца да 1840 г. Віленскі асяродак - універсітэт разам з супрацоўным з ім Крамянецкім ліцэем, а пасля іх закрыцця, Медыка-хірургічная акадэмія ў Вільні.

Этнаграфічныя даследаванні ахоплівалі збіранне паданняў, прымавак, песень, апісанне ўбранняў, хатаў, прыстасаванняў у доме. Галоўнае месца ў Еўропе, сярод этнаграфічных часопісаў, займалі польскія часопісы „Вісла" і „Люд". Сярод артыкулаў з'яўляліся анкеты, якія захоўвалі да праявдзення этнаграфічных даследаванняў, а таксама да апрацоўкі вынікаў дасланых адказаў. Прыкладам можа быць анкета Браніслава Грабоўскага, надрукаваная ў 1889 г. у "Вісле" пад назвай *„Анкета, для тых, хто збірае звычаі і праваўыя паняцці народаў вёсках і мястэчках"*; ці анкета з 1890 года прысланая часопісам „ Здароўе ", што заклікае да збірання інфармацый пра народнае лячэнне: *"Дакіроўваюся да ўсіх, хто мае магчымасць пазнаёміцца са спосабамі, сродкамі народнага лячэння, каб пачцілі ласкава заняцца збіраннем гэтых траваў і раслінаў, якія выкарыстоўваюцца ў мясцовай народнай, медыцыне. Лячэннем займаюцца авечкагадоўцы, знахары, бабы, а нават пані, ад іх таксама трэба даведвацца, што датычыць гэтай справы. Кожную раслінку прыклеіць на чвэрць паперы, пішучы ўверсе народную назву расліны, калі такая вядома, а калі не, то навуковае яе значэнне зробіць спецыялістка. Каля яе напісаць хваробу, пры якой прымяняецца, далей растлумачыць, як выкарыстоўваецца, якія часткі расліны ўжываюцца".*

Сярод іншых артыкулаў трэба назваць працу доктара Юзафа Пэлчынскага *„Некалькі слоў па праблеме народнага лячэння ў Польшчы"* („Вісла" т.4, 1890), а таксама артыкул Мар'яна Удзелі *„Медыцына і лячэбныя забабоны польскага народу. Дадатковы матэрыял да польскай этнаграфіі"* (спецыяльнае перыядычнае выданне „ Бібліятэкі Віслы " ).

У часе, сучасным для Э. Ажэшкі, прафесар батанікі Кракаўскага універсітэта Юзаф Растафінскі заахвочваў да збірання народных назваў у розных ваколіцах краю і прысыланне іх яму. Як пісаў Я. Александровіч у лісце да Э. Ажэшкі: *„Сумняюся аднак, ці шмат яму іх дастаўлена да гэтага часу. Добра робіш, Шаноўная Пані, пачаўшы гэтую карысную працу. Паслужыць яна прыкладам для іншых ".*

Прадстаўленыя публікацыі ўяўлялі каштоўныя ўказанні і дапамогу ў праявдзенні „даследаванняў" Э. Ажэшкі, а разам з тым яе апрацоўкі былі дадаткам і важнай крыніцай этнаграфічных ведаў, якія адносяцца да ваколіц Гародні.

### Кансультанты, якія дапамагалі навукова апрацоўваць батанічныя назвы

Прыпісанне правільных назваў сабраным раслінам ствараля пэўныя праблемы асобе, якая займаецца гэтай прафесіяй як захапленнем, таму Э. Ажэшка прасіла спецыялістаў дапамагчы ў гэтай галіне.

Яна шматразова карысталася з кансультацый **Яна Карловіча** (1836-1903), этнографа, мовазнаўцы, галоўнага рэдактара часопіса „Вісла" і шматгадовага сябра. Быў ён гісторыкам. Закончыў універсітэт у Мюнхене і Парыжы. Яго інтарэсы канцэнтраваліся вакол этнаграфічнай і мовазнаўчай тэматыкі. З мэтаю ўніфікаваць народазнаўчыя даследаванні ў 1871 г. выдаў падручнік „для тых, хто збірае народныя рэчы ", а пасля яго падобныя апрацоўкі на старонках „Віслы" і „Паментніка татшанскага" апублікавалі Раман Завілінскі, Ізыдар Каперніцкі. Эліза Ажэшка цесна супрацоўнічала з часопісам „ Вісла " і напэўна сутыкнулася з гэтымі 58 публікацыямі. Сяброўства Элізы Ажэшкі з Я. Карловічам дало плён згаданай раней серыяй „Людзі і кветкі на берагах Нёмана".

Э. Ажэшка, ведаючы пра свае недахопы, якія ў вялікай меры маглі паўплываць на навуковую значымасць артыкулаў і гербарыяў, прысланых у „Віслу", звярнулася з просьбай да Я. Карловіча праверыць і дапоўніць лацінскія і польскія назвы, якія яна падае: *"Пасылка ўключае ў сябе тры рэчы: рукапіс у канверце, гербарый і разам з гербарыем экзэмпляр яцыц... Раслінаў у гербарыі 84; гэта ўсё, што магла сабраць гэтым летам, але арыгінальнасць некаторых назваў і веды, пра рэчы, якія можна выкарыстоўваць з гэтых раслін, кампенсуюць малую лічэбнасць. Беларускія назвы выпісаныя ў рукапісе з такімі адступленнямі, каб каля іх можна было размясціць польскія і лацінскія. Бязмежна ўдзячна буду Шаноўнаму Пану, калі ў каго з батанікаў гэтыя астатнія для маёй калекцыі здабудзе " (1888).*

У адказе на просьбу Я. Карловіча гэта праверыў **Антоні Слюсарскі** (1843-1897), натуравед, спецыяліст у галіне заалогіі і параўнальнай анатоміі, са-рэдактар „Сусвету", а таксама суініцыятар і член Камітэта касы імя Мяноўскага.

На пачатковым этапе батанічных інтарэсаў пісьменніцы ў вялікай меры дапамог ёй пры надаванні правільных назваў раслінам, размешчаным у гербарыі, **Вітольд Урублеўскі** (1839-1927 ), педагог, географ у 1901- 1918 гадах, які выконваў пасаду дырэктара прыватнай Рэальнай школы ў Варшаве.

*Ганна Мар'я Келяк*

# ПРА КРЭСАВЫ ГЕРБАРЫЙ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ

Як піша сама пісьменніца ў лісце да Я. Карловіча: *"...Выпрацавала б да яго нарыс батанікі і народнай медыцыны тутэйшага краю. Маю да гэтага часу ў сваім гербарыі больш за дзвесце раслінаў, гэта вельмі мала ў параўнанні з тым, што можна сабраць. Народныя назвы гэтых раслін ёсць усе, але лацінскія, якія пану Вітольду Урублеўскаму абавязана, не ўсе, а мне здаецца, што без гэтых, тыя не будуць мець зразумелага значэння. Пры чым лекавае і гаспадарчае значэнне гэтых раслінаў яшчэ таксама мне не цалкам вядома, а звесткі, якія ў гэтым годзе маю ад адных, трэба будзе на будучы год праверыць у іншых, каб ужо пераканацца, што ёсць і варыянты тых самых меркаванняў і нават назваў і - што найважнейшае - імправізаваныя падчас хуткага адказу, якім не можна верыць...»* 2.09.1887, Гародня.

Эліза Ажэшка вяла таксама актыўную карэспандэнцыю з **Эдмундам Янкоўскім** (1849-1938), якому таксама была ўдзячна за дапамогу ў вызначэнні некаторых раслінаў: *"...Занялася ў мінулым годзе народнай батанікай, г.зн. вышукваннем назваў, якія надаюцца тутэйшымі людзьмі раслінам, а таксама значэнняў, паданняў, і т. д. з імі звязанымі. Маю адну вялікую праблему: вельмі і вельмі будучы неадукаванай, не ўмею да мноства раслінаў далучыць іх польскія і лацінскія назвы, без якіх зноў народныя назвы, у большасці русінскія, ніякага не будуць мець для навукі значэння..."* (1888).

Мог ён служыць Э. Ажэшцы прафесіянальнымі ведамі. У 1871 г. закончыў Віленскі універсітэт са званнем кандыдата прыродазнаўчых навук. Пасля адбыцця двухгадовых практык у Батанічным садзе ў Варшаве, пад пільным, але сардэчным вокам праф. Ежага Александровіча і атрыманні дыплому садавода ў 1873 г., выехаў з краіны, каб працягваць навуку ў Садоўніцкай школе ў Парыжы. Закончыў гэтую школу з І узнагародай горада Парыжа ў 1874 г. У тым жа годзе вярнуўся ў Варшаву і быў прызначаны інспектарам Памалагічнага саду, а ў 1879-1886 гг. першай садаводчай школы ў Варшаве.

Э. Янкоўскі выкладаў батаніку і садаводства ў розных прыватных школах, а таксама выконваў функцыю прафесара садаводства ў Галоўнай школе садаводства і пасля яе ўключэння ў Галоўную школу вясковай гаспадаркі (у 1921-1929) . У 1897 г. стварыў першы ў Польшчы часопіс на тэму садаводства „Польскі садавод", а з 1901 г. быў рэдактарам, разам з сынам Стэфанам, землеробча-садаводчага часопіса „Гаспадар". Э. Янкоўскі быў адным з заснавальнікаў Варшаўскага Таварыства садаводства, старшынём якога быў у перыяд 1906-1919. З 1925 г. займаў пасаду старшыні «Саюза польскіх садаводчых аб'яднанняў».

Быў аўтарам многіх працаў у галіне садаводства, такія як „Сад каля хаты" (1883), „Прамысловае садаводства" (1891), „Для садаводаў" (1930). Аднак сукупнасць сваіх ведаў перадаў у „Гісторыі садаводства ў Польшчы" (1923) і ў "Гісторыі ўсеагульнага садаводства" (1938).

Кароткі час Э. Ажэшка абменьвалася карэспандэнцыяй з Ежым Александровічам (1819-1894), да нашых дзён захаваліся толькі два лісты пісьменніцы і прафесара.

Е. Александровіч не толькі дапамог у прафесіянальным абазначэнні назваў, але таксама далучыў каштоўныя ўказанні, якія датычаць спосабу збірання раслінаў, экспанавання іх на лістках гербарыя. Выразіў шчырае здзіўленне з дакладнасці, з якой былі засушаныя расліны, прысланыя яму пісьменніцай для ацэнкі. Е. Александровіч захоплены гэтай справай, абяцаў пажыццёвую дапамогу пісьменніцы (1891).

Е. Александровіч праславіўся як заслужаны даследчык еўрапейскай флоры і творца першай садаводчай школы ў Варшаве. У 1839 г. Е. Александровіч закончыў гімназію ў Сэйнах і як урадавы стыпендыят працягваў навуку ў Пецярбурзе, у прыродазнаўчай секцыі фізіка-матэматычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Спецыялізаваўся галоўным чынам на батаніцы. Атрымаўшы ў 1843 г. дыплом кандыдата прыродазнаўчых навук, распачаў працу настаўніка ў Галоўнай школе ў Варшаве (да 1860 г.). Праз год выкладаў анатомію чалавека ў Школе мастацтваў, а з 1850 г. быў навуковым кіраўніком Батанічнага саду, якога потым быў дырэктарам. Вёў напружаную навуковую, папулярызатарскую дзейнасць, у значнай меры паўплываў на развіццё польскай фларыстыкі. Сярод яго вучняў можна назваць выдатных батанікаў як Эдмунд Янкоўскі, Я. Растафінскі і фармацэўт, батанік Фердынанд Каро. У 1855 г. быў прызначаны экзаменатарам у варшаўскай Лекарскай радзе і прафесарам у Фармацэўтычнай школе.

Быў таксама выкладчыкам батанікі, заалогіі, параўнальнай анатоміі, мінералогіі ў Медыка-хірургічнай акадэміі ў Варшаве (з 1857 г., г. зн. з часу яе адкрыцця), прафесарам батанікі і мінералогіі Рэальнай школы (з 1860 г. ), як і ў пазнейшым Імператарскім Варшаўскім універсітэце.

Па яго ініцыятыве, у 1864 г., створаны ў Варшаве Памалагічны сад, якога пасля быў дырэктарам і пры якім стварыў першую ў Польшчы Школу садаводства. Кіраванне школай даручыў свайму вучню Э. Янкоўскаму. Е. Александровіч у вялікай меры паўплываў на развіццё фармацэўтычнай батанікі, садзейнічаў узнікненню Таварыства садаводаў (1884), якое засяроджвала вакол сябе многіх аптэкараў. Быў саснавальнікам Таварыства і Музея пчаляроў. Быў піянерам польскага шаўкаводства. Яго грамадская дзейнасць была звязана з Музеем прамысловасці і земляробства. Супрацоўнічаў з „Энцыклапедыяй земляробства", „Вялікай ілюстраванай энцыклапедыяй", „Сусветам" і „Паментнікам фізіялагічным". Часта, падчас батанічных экскурсій, суправаджаў Э. Ажэшку **Генрык Нусбаўм** (1849-1937), выдатны доктар, прафесар Варшаўскага універсітэта, знаўца фармацэўтычнай батанікі. Пісьменніца выбіралася з ім на прыроду, каб *«...батанізаваць, паданні і іншыя народныя рэчы збіраць...»*.

Каштоўным для развіцця батанічных ведаў было сяброўства Элізы Ажэшкі з **Клеменсам Крушэўскім** (1858-1945) ,па адукацыі лясным інжынерам, выпускніком Пулаўскага інстытута, выдатным прафесіяналам у галіне сваёй спецыяльнасці. Выконваў ён функцыю намесніка кіраўніка Белавежскай пушчы, куды разам з жонкай, Казімірай з Астралэнцкіх, сястрой пасябраваўшай з Ажэшкай настаўніцы, Ядвігі, неаднаразова запрашалі пісьменніцу ў свой дом у Белавежу.

Так піша Э. Ажэшка пра час, праведзены ў таварыстве К. Крушэўскага: *„...Мала памятаю ў жыцці так захапляльных хвілін, як дзве батанічныя экскурсіі, адбытыя разам з панам Крушэўскім. Былі гэта доўгія і наглядныя ўрокі, з якіх магла карыстаць дзякуючы папярэдняму батанічнаму аматарству...,* 2.08.1898.

### Гербарый Элізы Ажэшкі, захаваны ў калекцыях Познаньскага Таварыства сяброў навук

Народазнаўчыя, лекавыя захапленні Элізы Ажэшкі, якія усё больш развіваліся, прывялі да стварэння прыгожага гербарыя, багатага раслінамі, якія былі вядомыя і прымяняліся надняманскім людам. Пісьменніца, дацэньваючы вялікія веды вясковых лякарак, жадала захаваць ад забыцця хаця б частку гэтых ведаў. З вялікай стараннасцю збірала народныя назвы раслінаў, траваў і разам з узорамі змяшчала іх у сваёй калекцыі. Будучы свядомай значэння калекцыі, старалася дапоўніць народныя назвы прафесіянальнымі, польскімі і лацінскімі назвамі. Гербарый гэты выкананы ўласнаручна, падпісаны і ўпарадкаваны Элізай Ажэшкай, знаходзіцца на дадзены момант у спецыяльнай калекцыі Бібліятэкі Познаньскага Таварыства сяброў навук у Познані.

Гербарый уключае ў сябе 281 расліну на 78 лістах, кожная прыклеена асобна і ў большасці падпісана народнай, лацінскай і польскай назвамі.

У гербарыі няма вызначэння часу, у які пісьменніца зрывала, альбо размяшчала расліны ў альбоме. Час, калі ўзнік гербарый, можна з вялікай праўдападобнасцю вызначыць на падставе аналізу лістоў Элізы Ажэшкі. Першыя ўпамінанні, якія адносяцца да тварэння гербарыя, паходзяць з 1887 году з ліста да Я. Карловіча. Астатнія звесткі, якія датычаць батанічных экскурсій, паходзяць з ліста да Леапольда Маста з 1898 году.

Гэты гебарый пасля смерці пісьменніцы быў перададзены як дар Музею натуральнай гісторыі (з часам названы Музеем прыродазнаўства) Таварыства сяброў навук у Познані (далей ПТСН). Да гербарыя далучана квітанцыя паштовага пераводу, датаваная лютым 1911 г. Запіс адпраўшчыка: Гародня, Садовая, уласны дом Марыі Абрэмбскай. На адвароце пячатка: "K(oniglich) Pr(eussisches) Hauptzollamt Posen № 4".

*(Працяг у наст. нум.)*

*Z pól, łąk i lasów, nad-niemeńskich miejscowości: Minkiewicze, Poniżany, Hłedowicze, [illegible], Po-[illegible], [illegible], Kołpaki.*

*Фрагмент тытульнай старонкі гербарыя*



*Кветкавая кампазіцыя Э. Ажэшкі, ахвяраваная Чэславу Наўсбаўму. Знаходзіцца ў калекцыі Архіву Э. Ажэшкі Польскай акадэміі навук у Варшаве*



*Старонка гербарыя Элізы Ажэшкі з калекцыі ПТСН*

*Да 175-годдзя паўстання 1831 года*

# ПАЎСТАННЕ ДЗІСНЕНСКАГА ПАВЕТУ

***Вытрымкі з кнігі Фелікса Уратноўскага "Збор запісак аб паўстанні ў Літве ў 1831 годзе" у перакладзе У. Ляскоўскага***

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Юнкеры былі размеркаваны па батальёнах, важнейшым іх абавязкам было інструктаванне маладых паўстанцаў. Язду ўзначаліў Мікалай Аўгусцінавіч Клёт (м. Лесна, Воўкаўшчына, Бартожа). Вялікая колькасць люду не мела зброі, апроч кос і пік. Затое бантаў ім пачкамі слалі патрыёткі з усяго павету, сімвалізуючы адзінства народнай вайны. За 4 дні з часу прыбыцця юнкераў паўстанцаў у Дзісненскім павеце колькасна надта ўзрасло, значна ўзрос парадак, узнікла імкненне да хутчэйшай схопкі з ворагам. Усе прагна звярталі вочы да Дзісны. Перш за ўсё за тое, што там былі вялізныя склады, сабраныя рускімі, падругое, як і ва ўсіх паветах, так і тут надавалася вельмі вялікая вага захопу цэнтра павету. Як толькі ў ваенных справах паяліліся такія задумы, стала ясна, што вайсковай сіле вельмі не хапае вельмі патрэбнай рэчы – важака, які б апроч ведаў ваеннай справы, карыстаўся ўсеагульным даверам народу, прыняў бы агульнае кіраўніцтва і аб'яднаў бы ўсе часткі ў цэлае. Для выбару вартага Камітэт падаў двух кандыдатаў: ведомага жыхара Браслаўскага павету і падпалкоўніка польскіх войскаў Валенты Мікалаевіча Брахоцкага, які жыў у Глыбокім Дзісненскага павету. Высланыя да іх дэлегаты вярнуліся без выніку, першы не мог выехаць з месца не наклікаўшы на свой дом шалёнай помсты Кахоўскага (начальнік рускіх войск у Відзах). Другі адмовіўся тым, што ўжо быў запрошаны ў Вілейку. А найбольш тым, што зусім нядаўна пасяліўся ў Глыбокім і мала знаёмы з паветам, сумняваецца, ці пажадаюць усе даверыцца яму, ахвяраванай яму адзінаўладнай пасадай. Паўторна пасланы да Брахоцкага Люцыд Корсак (м. Геронцэ) завёз яму ўрачысты заклік і схіліў яго да прыбыцця ў Лужкі.

27 красавіка Брахоцкі (удзельнік вайны 1812 г.) аб'яўлены начальнікам узброеных сіл Дзісненскага павету, прыняў прысягу і цяпер пільна заняўся падрыхтоўкай да жаданага паходу. Шэфам свайго штабу назначыў ведомага нам падхарунжага Пангоўскага, на ад'ютанта ўзяў Ігнацы Клёта, загад арсеналам, выдачу зброі і працу на складзе даверыў падхарунжаму Абуховічу (м. Мікалаёва). Камендантам ў Лужках прызначыў маршалка Буйніцкага, камендантам Глыбокага паслаў Ігнація Корсака. (м. Пятроўшчына). Мікалая Клёта, начальніка кавалерыі, паслаў выставіць пост да Дзісны і ў Германавічах. Рэшту кавалерыі паўстанцаў аддаў былому маршалку графу Міхаілу Восіпавічу Храпавіцкаму (м. Празарокі). За шэсць дзён спакойна адбылася ўнутраная арганізацыя. Вораг не высоўваўся з Дзісны, напэўна быў застрашаны звесткамі аб лічбе паўстанцаў, або меў іншыя, пільнейшыя задачы. Расійскай ўлада спяшалася сплавіць на Рыгу харчовыя склады. Як сказалі, харч павінен быў морам адпраўлены ў Гданьск для падмацавання арміі Дыбіча ў Польшы. Кожны карабель, баючыся нападу паўстанцаў, забяспечвалі аховай. З-за гэтага змяншалася колькасць войск ў Дзісне і рэшта былых двух ці трох батальёнаў магла здавацца недастатковай для наступальных крокаў. Пасля Вялікадня, як толькі дзісненскія паўстанцы пабачылі выразную здольнасць для наступальнага бою, вырушылі на захоп павятовага горада. Для падрабязнага апісання гэтай падзеі найлепей паслужаць зноў вытрымкі з дзённіка падхарунжага.



**Паўстанцы Аляксандр Рыпінскі, Люцыян Плятар, Ян Клёт, Аляксандр Пангоўскі.** *Літаграфія.*

**Захоп Дзісны**

Стаялі мы лагерам каля Лужкоў, усе на полі ў буданах, апроч Камітэту, які па сваіх абавязках застаўся ў мястэчку і яшчэ некаторых грамадзян, якія не рады былі расстацца са спакоем. Сам Брахоцкі часцяком сярод дажджлівай ночы правяраў пасты і тым прыгожым учынкам зрабіў добрае ўражанне на простых людзей. Уражвала бачыць паважнага старца на кані, калі маладыя хлопцы спакойна спачывалі, пахаваўшыся ад дажджу. Увесь цяжар вартавой службы падаў на юнкераў, бедную шляхту і сялян. Ланцуг пікетаў заўсёды быў у прадку. Пры тым нямала працы ўкладвалі мы ў навучанне жаўнераў, лік якіх пастаянна павялічваўся. Найбольш клопату прычыняў недахоп зброі. Дзе-нідзе блішчаў карабін са штыком. Стрэльбы паляўнічыя рознага калібру па большай частцы былі вельмі дрэнныя, косы і пікі, насаджаныя абы як. Трэба было справіцца з гэтым як толькі можна. Прынялі мы баявы шыхт паводле інструкцыі, якая хадзіла ў пісаных копіях, падобна, што прысланая з каралеўства Польскага. Першы шэраг складалі стральцы. Другі – касінеры. Трэці – людзі з пікамі такімі доўгімі, каб маглі дастаць да першага шэрагу. Пяхота наша падзелена на батальёны і роты, умела маршыраваць і выконваць патрэбныя павароты. Эканом лужэцкага маёнтка прыслаў **трохколерны** *штандар, зроблены ягонай жонкай.* З надпісам: "За вольнасць, веру і Айчыну!". Дух нашага люду быў добры, права кожны хлопец казаў: "Мы з ахвотай пойдзем біць праклятага маскаля, каб толькі ў яго не было пушак, каб і нам хоць маленькую пушку!". Як раз для заспакаення такога клопату Брахоцкі недзе дастаў бронзавую гарматку (віватоўку – для салютаў). А ў кляштарным складзе знайшлі карцеч, што засталася ад 1812 году. Яна выдатна падыйшла для гэтай гарматкі. Маліліся мы і спадзяваліся, што салдаты нашы ўтрымаюцца на пляцы, шляхта з запалам і адвагай абяцала найвялікшую бойку, пастаянна заклікала: "Да Дзісны!". А як трэба было берагчыся, калі начальнік задумаў дагадзіць тым гарачым жаданням! На 1 траўня выпаў Вялікдзень, які адзначаўся яшчэ паводле расійскага календара. Паставілі алтар проста на полі пад адкрытым небам. У 10 гадзін раніцы зышхаваліся мы для набажэнства. Войска стала чатырохкутнікам, за пяхотай стаяла конніца са зброяй – усе без шапак. Імшу адправіў сакратар Камітэту ксёндз Татур. Музыка, якую даставіў да паўстанцаў маршалак Храпавіцкі, іграла пад час набажэнства. Потым ксёнз Францішак выступіў з казаннем, дакладней, з патрыятычнай прамовай. Напаследак, за прыкладам Брахоцкага, усе паўтарылі прысягу да астатку бараніць Айчыну. Паднявшы зброю ўверх, трохкратна выкрыкнулі: "Вольнасць або смерць!". Пасля таго ўрачыстага абраду начальнік Камітэту запрасіў да сябе афіцэраў на сняданку. А войска частавалі ў лагеры. Тры наступныя дні прайшлі ў звычайных клопатах. 5 траўня начальнік першай роты трэцяга батальёну падхарунжы Аляксандр Рыпінскі атрымаў загад: забяспечыць сваіх людзей сякерамі, рыдлёўкамі, піламі і таму падобным начыннем, адправіцца ноччу ў Германавічы, дзе стаяў Мікалай Клёт з аддзелам кавалерыі, паставіць лагер для вайсковых сілаў і падрыхтаваць для іх пераправу цераз Дзісёнку, а для пэўнай часткі пяхоты падрыхтаваць плыты, на якіх можна было б вадой плысці да самай Дзісны. Брахоцкі меў намер атакаваць Дзісну з 2000 салдат з трох розных бакоў, каб уразіць ворага відам вялікага натоўпу, які насамрэч толькі часткова мог дзейнічаць не маючы дастатковай колькасці зброі.

6 траўня вырушылі з лагера. У Лужках застаўся Камітэт, пры ім наш калега Абуховіч для вырабу пораху і нагляду за арсеналам, а Рудольф Клёт не адпачыўшы, з аддзелам пяхоты застаўся для падтрымкі і аховы ўнутранага парадку. Камендант лагера маршалак Буйніцкі ўзначаліў усю вайсковую ўладу ў першай "сталіцы" паўстання. Узброеная сіла для захопу павятовага горада рухалася дзвюма дарогамі: трэці батальён Тамаша Лапацінскага і аддзел кавалерыі Храпавіцкага пайшлі паштовым трактам, каб з правага берага Дзісёнкі ад Лугоў ці Лонк, маёнтка маскоўскага палкоўніка Фралова прыбыць да Дзісны. Брахоцкі з рэштай падаўся на Германавічы, каб злучыцца тут з авангардам і пераправіцца на левы бераг Дзісёнкі У дзве гадзіны пасля поўдня прыйшлі мы з Брахоцкім у Германавічы і занялі лагерны стан, падрыхтаваны Рыпінскім, паводле дадзенай яму інструкцыі, да таго ж для нас тут быў падрыхтаваны харч, салома і г.д.

Неўзабаве заўважылі мы на дзісненскай дарозе ляцеўшага наўскач вершніка, за якім слуга трымаў некалькі свабодных коней. Гэта быў Станіслаў Мігановіч гаспадар Мікалаёва. Затрыманы пікетам і прыведзены на кватэру кіраўніка, расказаў, што Пётр Вазгірд са сваімі дваровымі людзьмі напаў ў Мікалаеўскай карчме (за адну мілю ад Дзісны) на казакоў, адабраў у іх коней, і адправіў у лагер паўстанцаў, а саміх трымае у аблозе, бо яны зачыніліся са зброяй і не жадаюць здавацца. У той жа час частка паўстанцаў пад кіраўніцтвам двух Семашкаў (Міхаіл і Восіп Станіслававічы, (м. Мнюта, Ляхаўшчына) паспяшалася на дапамогу. 7 траўня пераправіліся мы пад музыку цераз Дзісенку. Брахоцкі, пакінуўшы адзін звяз пад камандай падхарунжага Шульца для аховы пераправы з тылу, падаўся з усімі ў дарогу. Мелі мы з сабой і нашу гармату. Рыпінскі, як артылерыст, перадаў некаму іншаму свой звяз і ўзначаліў тую аднаконную батарэю. За кананіра служыў яму шавец Ардынскі. Праўдзіва прыслоўе: пры вялікай патрэбе і шыла голіць. Прыбліжаючыся да Мікалаёва, атрымалі мы звестку аб казаках. Людзі Вазгірда двух з іх забілі, а трох узялі жыўцом. Ураднік, які надаваў найболей сваім адвагі і пачаў страляць, найперш атрымаў кулю. Гэты выпадак падняў на ногі залогу Дзісны, і там з поўным узбраеннем чакалі нас. У Мікалаёве спаткаў нас ксёнз з касцельнай цырымоніяй, ідучы праз вёску мы бачылі ў карчме жыдка, які служыў нам за правадніка пры ўцёках з Дзісны. Вітаў нас з радасцю і расказаў, што быў затрыманы ўладамі, але. на шчасце, апраўдаўся.

*(Працяг у наступным нумары.)*



# Улюбёны ў роднае слова

14 красавіка ў тэатральнай зале Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў адбылася прэзентацыя новай кнігі і камплекта з 3-х кампакт-дыскаў "Беларускае літаратурнае вымаўленне: Практыкум па дыкцыі і арфаэпіі". Аўтар выдання, вядомы беларускі педагог, спецыяліст у галіне навучання выразнаму чытанню, прафесар кафедры сцэнічнай мовы і вакалу акадэміі мастацтваў Андрэй Каляда.



*Андрэй Каляда*

Імпрэза пачыналася даволі незвычайна. Загучала фанаграма вядомай песні "Ой калядачкі бліны-ладачкі" ў выкананні "Песняроў". І першым слова ўзяў сам Андрэй Андрэевіч. Ён распавёў пра тое, што кніжка пабачыла свет дзякуючы дапамозе, якую аказала стрыечная сястра Ірэна Каляда-Смірнова з ЗША. Усім, хто запоўніў утульную залу тэатра, аўтар прэзентаваў кніжку і кампакт-дыск, а пасля перадаў слова педагогу і актору Уладзіміру Мішчанчуку, які вёў рэй далей. У сваёй прамове ён спыніўся на некаторых біяграфічных звестках Андрэя Каляды. Згадаў тыя гістарычныя карані, якія надаюць навукоўцу імпэт да творчасці. А карані гэтыя ў слаўтай Наваградчыне, якую некалі так хораша апяваў Адам Міцкевіч:

*"О наваградскі край –*
*мой родны дом,*
*Праслаўлены*
*Трамбецкага пяром,*
*Куды б мяне ні кінуў*
*лёс жыццёвы,*
*Забыць я не магу*
*твае палі, дубровы".*

Андрэй Каляда мае шмат кніг па праблемах майстэрства вуснай мовы, сцэнічнага слова, методыцы навучання выразнаму чытанню. Іх можа было пабачыць на выставе, наладжанай у залі. Першая ж кніжка А. Каляды "Выразнае чытанне" выйшла ў 1970 годзе.

Шмат хто ў той дзень адкрыў для сябе Каляду-перакладчыка. Ён перакладае з рускай мовы Дастаеўскага, Чэхава, Гогаля, Тургенева, Купрына, Буніна, Булгакава і іншых.

У 1966 годзе Андрэй Каляда арганізаваў народны тэатр чытальнікаў "Жывое слова", якому сёлета акурат 40 гадоў. Ён быў мастацкім кіраўніком гэтага тэатра да 1991 года.

На прэзентацыі выступілі – А. Марачкін, В. Іваноўскі, Р. Баравік, А. Макоўская, З. Санько, М. Яленскі, Ф. Варанецкі. Трэнінг па сцэнічнай мове дэманстравалі студэнты акадэміі. Як узор літаратурнага вымаўлення прагучалі ў выкананні Андрэя Каляды некаторыя творы запісаныя на дысках: урывак з прадмовы Ф. Багушэвіча да зборніка "Дудка беларуская", страфа з верша Янкі Сіпакова "Свая мова" і верш Яўгеніі Янішчыц "Па-беларуску", дзе ёсць такія радкі:

*"Сто разоў шукай*
*другой красы,*
*А тым больш,*
*што свет даўно не вузкі!*
*... Ды калі ты*
*не бязродны свет –*
*Гавары са мной*
*па-беларуску".*




Для адпрацоўкі дыкцыйнай выразнасці і практычнага засваення нормаў беларускага літаратурнага вымаўлення ў дапаможніку змешчаны не толькі асобныя строфы з вершаў беларускіх паэтаў прыказкі, але і прымаўкі, чыстагаворкі, скорагаворкі.

Кніга адрасуецца студэнтам, выкладчыкам беларускай мовы, усім, хто хоча самастойна вывучыць і засвоіць арфаэпічныя нормы беларускай мовы. Выдадзена яна ў НВК "Тэхналогія" на замову ЗБС "Бацькаўшчына".

Запытвайце камплект у кнігарнях. У адзіным экзэмпляры ён ёсць у бібліятэцы Таварыства беларускай мовы.

А тым часам Андрэй Каляда рыхтуе да выдання новую кнігу. Пажадаем яму поспехаў.

***ІрМа.***

# *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў чэрвені*

Абужынская Ганна Алякс.
Акудовіч Валянцін Васіл.
Аляхновіч Ніна Паўлаўна
Анапрыенка Юры
Анацка Ганна
Анацка Яўген
Асмыковіч Міхась Мікал.
Баеў Дзмітрый Уладзімір.
Баеў Павел Віктаравіч
Базык Вольга
Белавусава Валянціна Вал.
Біза Юльян Сцяпанавіч
Бурачонак Аляксандр Вяч.
Бязмацерных Дар'я Алякс.
Бязмен Васіль Канстанцін.
Бяласін Яўген Аляксандр.
Вайтовіч Сяргей Уладзімір.
Валошчык Лідзія Рыгор.
Варонік Святлана Аркадз.
Васільева Анастасія Вячас.
Гайдук Ірына Эдуардаўна
Галіч Аляксей Эдуардавіч
Гашко Ірына Аляксееўна
Глушко Аляксей Віктар.
Грыгор'ева Ірына Людвіг.
Грышко Людміла
Гудкова Дар'я Уладзімір.
Давыдчук Сяржук
Дземідовіч Ганна
Дзічкоўская Настасся
Дзюсекаў Павел
Жалдака Васіль Станісл.
Жамойда Алена
Жарнасек Вітаўт
Жук Ігар Васільевіч
Завадская Алена Аляксан.
Запалянская Вольга Васіл.
Золаў Юры Георгіевіч
Іваноў Сяргей
Ігнатовіч Марыя Іосіфаўна
Ільіна Анастасія Аляксан.
Кавалеўская Наталля Л.
Кавалеўская Стэфанія С.
Канкоўская Святлана
Капціловіч Іван
Каўко Зміцер
Кісель Сяргей Леанідавіч
Кісляк Васіль Сяргеевіч
Кляпкоў Дзмітрый
Камар Юры Мікалаевіч
Косава Ганна Валер'еўна
Кочман Тарэса
Красоціна Тамара Іван.
Краўчук Зміцер
Краўчук Ірына
Крол Аляксандр Уладзімір.
Кудрашова Лілія
Кузікевіч Алена
Кукуць Алена Аляксандр.
Кукуць Уладзімір Часлав.
Куляшоў Дзмітры Віктар.
Куніцкая Ганна Уладзімір.
Курдо Павел Аляксандр.
Кутас Святлана
Кухарчык Людміла
Лабаты Алег Анатольевіч
Ларын Іван Юр'евіч
Ласкутнікаў Павел Сярг.
Лаўрыновіч Алесь Сярг.
Лендзянкоў Ігар
Ляўковіч Анатоль Іосіф.
Майсяёнак Андрэй Георг.
Макарэвіч Іна
Макрыцкі Яраслаў Янавіч
Максімава Наталля
Малашчанка Аляксей Юр.
Маневіч Аляксей
Манкевіч Таццяна Пятр.
Маркевіч Мікалай Мікал.
Мароз Кацярына Мікал.
Мароз Уладзімір Вікенц.
Марозава Людміла Уладз.
Мархотка Леанід Андрэев.
Махлай Кастусь
Мацюшэнка Ніна Мікал.
Машкала Іосіф
Мельнічук Сяргей
Міхайлоўская Данута Кан.
Міхальчук Вераніка Пятр.
Міхноўская Наталля Вяч.
Мішчанкоў Уладзімір Ал.
Нішчык Алесь Уладзімір.
Носаў Андрэй
Няганаў Яўген Сяргеевіч
Палухін Уладзімір Мікал.
Палянскі Андрэй Валер'ев.
Панкевіч Юлія Аляксандр.
Парчынскі Яўген
Патапава Дзіяна Сярг.
Паўловіч Анатоль
Петрашэвіч Яўген
Праневіч Кацярына Ген.
Пукель Алена Адамаўна
Рабчэня Таццяна Васіл.
Радзюк Валянціна
Радэнка Кацярына Уладз.
Раеўскі Аляксандр
Разжалавец Іван
Разжалавец Сяргей
Разумава Галіна Уладзім.
Рак Вольга Рыгораўна
Раманава Ганна Алякс.
Раманішка Вікторыя Улад.
Раманчук Анатоль Анат.
Ролік Міхаіл Міхайлавіч
Русць Максім Часлававіч
Рэўтовіч Кірыла Васільевіч
Савіч Сяржук
Сакава Ніна Леанідаўна
Сакалова Ніна
Сакун Алена Васільеўна
Салаўёва Людміла Мікал.
Салоха Надзея
Самстыка Сяргей Алегавіч
Свізуноў Вячаслаў
Свірко Наталля
Сідляр Андрэй
Сіліч Аляксандр Анатол.
Сільнова Ніна
Сінкевіч Ірына Тадэвуш.
Славута Ніна
Спасюк Рыгор Віктаравіч
Станько Галіна
Сямашка Ала Уладзімір.
Сянкевіч Святлана Анат.
Сярова Зося
Таўгень Людвіка
Трэцьяк Дзмітрый Вітал.
Туровіч Ірына Уладзімір.
Урбан Аляксандр
Філічонак Ларыса
Харужая Вера
Хвацік Іван Міхайлавіч
Хевук Ігар
Цімафеева Ядвіга Г.
Ціханаў Аляксандр Валер.
Ціхановіч Вольга Віктар.
Чабатарэўскі Барыс
Чарановіч Ніна Мікал.
Чаркасава Галіна Ільінічна
Шарман Аліна
Шаўцоў Генадзь Уладзім.
Шахлевіч Юлія Віктар.
Шпілеўскі Вячаслаў Вікт.
Шумская Ірына Антон.
Шчарбачэня Вячаслаў С.
Шыпіла Уладзімір Алякс.
Юркевіч Сяргей Іванавіч
Юшкевіч Андрэй Андр.
Якаўлеў ЮрыГенадз'евіч
Якубовіч Ю.А.
Яскевіч Алесь Юр'евіч
Яшкіна Надзея Алегаўна

## Міжнародная канферэнцыя

Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі праводзіць міжнародную навуковую канферэнцыю **"Сучасны стан і дынаміка нормаў беларускай літаратурнай мовы"**, якая адбудзецца **24–25 кастрычніка 2006 г.**

Прапануецца абмеркаваць наступныя тэмы:

1. Дынаміка развіцця і тыпалогія змен лексічных нормаў беларускай літаратурнай мовы.

2. Змяненні ў слоўнікавым складзе і граматычным ладзе сучаснай беларускай мовы.

3. Варыянтнасць моўнай нормы ў сферы словаўтварэння, словаўжывання, словазмянення.

4. Анамастыка і норма.

Рабочыя мовы канферэнцыі – славянскія.

**Заяўкі на ўдзел** (прозвішча, імя, імя па бацьку, тэма даклада, месца працы, пасада, вучоная ступень і званне, кантактны адрас) просім даслаць **да 1 верасня 2006 г.** на адрас: Аргкамітэт канферэнцыі, вул. Сурганава, 1/2, Мінск 220072 Беларусь. Матэрыялы здаюцца ў час рэгістрацыі (друкаваны і электронны варыянт).

Тэл. для даведак: (++375 17) 284 02 50, 284 27 18; Email: kop@socoi.bas-net.by

По канферэнцыі плануецца выданне зборніка. Аб'ём да 3 старонак праз 1,0 інтэрвала, шрыфт Times New Roman, 14, без знакаў пераносу; спіс выкарыстанай літаратуры прыводзіцца ў канцы артыкула 12 кеглем. Спасылкі ў тэксце падаюцца ў квадратных дужках [5,12].

Арганізацыйны ўнёсак – 15 тысяч беларускіх рублёў. Праезд, харчаванне і пражыванне аплочваюць самі ўдзельнікі канферэнцыі.

***Наш кар.***

## Першы падручнік па беларускай мове для венграў

Пад агульнай рэдакцыяй прафесара Андраша Золтана пабачыў свет **першы навучальны дапаможнік па беларускай мове для студэнтаў-венграў**: Ларыса Станкевіч – Жужа Катксіч. Дваццаць сустэч з Беларуссю: падручнік па беларускай мове для пачаткоўцаў / Пад агульн. рэд. Андраша Золтана. – Будапешт, 2006. (Larisza Sztankevics – Katkits Zsuzsa. 20 találkozás Fehéroroszországgal: fehérorosz nyelvkönyv kezdők számára / Szekesztette Zoltán András. – Budapest, 2006.)

***Наш кар.***

# Усе падворкі добрыя, але свой найлепшы!

*(Працяг. Пачатак на ст. 1.)*

Заспявалі удзельнікі музычнага гурту "Берасавіцкія музыкі" – і ногі самі просяцца ў скокі. Ды яшчэ да цябе падлятае гэткая



спрытная маладзёна ў нацыянальным строі, рукі ў бакі, усміхаецца. Хіба адмовіш прайсціся ў карагодзе, калі не ўмееш на свой сорам нешта больш далікатнае і старадаўняе, захаванае ад продкаў.

У парку няма вольнага месца. Кожны раён асвоіў сабе ладны куточак. І чаго толькі не навезлі! Сувеніраў – на любы густ. Народныя майстры прапануюць да ўвагі карціны, плеценыя з саломкі і лазы вырабы, кавальскія прылады. Дарэчы, кавалі проста на вачах прысутных стваралі свае цікавосткі. Гучалі ўдары малатка па гарачым метале, палала вогнішча і самі майстры, у фартухах, капелюшах, рукавіцах завіхаліся навокал. Дзяцей ад такога гледзішча не адцягнуць!

Столькі беларускіх выканаўцаў я даўно не чуў. Песні на роднай мове даносіліся з імправізаванай пляцоўкі на плошчы Леніна, гучалі ў парку. Падыходжу да групы выканаўцаў, якія прымасціліся сярод зялёных насаджэнняў і так хораша спяваюць. Што ні кажы, пасуе нацыянальнае адзенне бел-чырвона-белых колераў з прыгожай беларускай прыродай.

— Чые будзеце?

— Ды з Гародні мы, з гарадскога Дома культуры, называемся "Гасцінец".





А як не зрабіць фотаздымак Антаніны Пятроўны Пенцяк з Зэльвенскага раённага Дома рамёстваў! Прадзе сабе кудзелю, паказвае моладзі што да чаго тут і якімі прыёмамі трэба карыстацца. Заўважаю, што слухаюць людзі ўважліва, прыглядаюцца да нетаропкіх рухаў рук майстрыхі. І ціха снуецца нітка...

Не змог не спыніцца перад цудоўнымі вырабамі бандарных спраў майстра. Бочачкі на заглядзенне! Нездарма люд цікавіцца іх коштам. А што ў такую пасудзіну – ды добрага вінаграднага віна...

Усё абышоў, ды не раз. Сустракаю вядомага мастака Дзмітрыя Іваноўскага. Сярод карцін іншых майстроў пэндзля паказвае свае апошнія чатыры: тут хітрая ліса таропка спяшаецца пад прыкрыццё лесу, а тут зубры-волаты ў дрымучай пушчы, а гэта дзяўчына-прыгажуня з букетам кветам на квяцістым лузе.

— Добрае свята, — кажа Зміцер. – Еўрапейскі ўзровень. Не сорамна перад гасцямі адкуль бы яны не былі.

Побач з карцінамі мастакоў каля сталоў з сувенірамі завіхаюцца два хлопцы. Іх галовы пакрыты накідкамі, якія мы прывыклі раней бачыць ў апрананні арабскага лідэра Ясіра Арафата. Няўжо палестынцы?

Нумізматы тлумачаць паходжанне старажытных манет. На кніжных паліцах можна знайсці літаратуру па гісторыі Гародні, навейшыя выданні з багатымі ілюстрацыямі горада. Каля ланцужкоў з бурштынавым начыннем чародка маладых дзяўчатак...



Зайздрошчу тым, у каго на руках відэакамера. Такі матэрыял сам плыве ў рукі. Здымай – не хачу! Застанецца толькі з розумам зманціраваць – і гатовы фільм. Упэўнены, што мы з вамі гэтыя кадры не раз пабачым на экранах тэлевізара. Такое хараство нельга хаваць ад вачэй людзей.

А над паркам плыве, пераліваецца беларуская песня. Гэта ўсё яшчэ выступаюць нашы родныя калектывы. Багаты Прынёманскі край на таленты.

А цяпер час адведаць падворкі і нацыянальных меншасцей, якія абралі сабе домам нашу Беларусь.

***Антон Лабовіч,***
*Гародня.*
*Фота аўтара.*

## Без эпітафіі

У 2000 годзе да мяне патэлефанавалі з аднаго часопіса, каб я напісаў артыкул пра прадзеда, вядомага ў свой час псіхіятара Паўла Максімавіча Мамойку (1889-1969). Я звярнуўся ажно ў дзве ўстановы: нацыянальную бібліятэку, якую наведваю з 1992 года і Медыцынскую навуковую рэспубліканскую бібліятэку, што размяшчалася на вуліцы Фабрыцыюса. Ведаў, што прадзед меў шмат навуковых артыкулаў па псіхіятрыі ў свой час, сябраваў з Інсаравым. Негледзячы на тое, што я з'яўляюся адным з самых заўзятых наведвальнікаў адной з залаў установы Нацыянальная бібліятэка – інфармацыі не знайшлося.

Не знайшлося яе і на вуліцы Фабрыцыюса. Не зразумеў чаму...

Але апошнім часам пачаў знаёміцца з творчасцю класіка сучаснай беларускай літаратуры Эрнэста Ялугіна (1936 г.н.). Прачытаў я і яго дакументальную аповесць "Без эпітафіі, што была напісана ў 1989 годзе. у заснаванай на дакументальных матэрыялах аповесці паказаны характар і няпрості лёс старшыні першага ўраду БССР Зміцера Хвёдаравіча Жылуновіча, у беларускай літаратуры вядомага таксама, пад іменем Цішкі Гартнага, жыццё якога трагічна абарвалася ў гады рэпрэсій. Класік расказвае пра трагічную смерць З.Х. Жылуновіча 11 красавіка 1937 года.

Дык вось наколькі я ведаю ад бабулі: ў 1937 годзе яе бацька П.М. Мамойка працаваў псіхіятарам у Магілёўскай псіхлякарні. Кватэры не меў, таму разам з дзецьмі: Маргарытай, Таісіяй і Лілеяй, Іраідай і Аэлінай жыў на тэрыторыі лякарні ў Пячэрску (г. Магілёў). У клініцы ён пасад не займаў і думаю, што постаць З.Х. Жылуновіча была даверана некаму з псіхіятараў, хто займаў больш высокае становішча ў медычнай іерархіі і атрымаў адукацыю пры саветах, бо прадзед пачынаў навучанне ў Маскоўскім універсітэце пры цары. Але думаю, што ён ведаў пра лёс З.Х. Жылуновіча. Менавіта з гэтай прычыны асоба прадзеда выкрэслена з навуковага звароту. Не ведаем мы і падрабязнасці падзей тых часоў у Пячэрску. Лёс П.М. Мамойкі склаўся таксама трагічна.

На паседжанні суполкі "Гісторыя" была абмеркавана творчасць Эрнэста Ялугіна і асобная яго раман "Алжырская пастка", дакументальная аповесць "Без эпітафіі". Мы вырашылі, што гэта асоба № 1 з сучасных беларускіх празаікаў. Вырашана ў сувязі з юбілеем узнагародзіць класіка беларускай літаратуры каштоўным падарункам, які будзе уручаны пісьменніку ў бліжэйшы час, як лепшаму празаіку 2005 года.

***Аляксей Шалахоўскі,***
***старшыня суполкі***
***"Гісторыя".***

# У Валодзі на агародзе...




Новую нацыянальную бібліятэку маркуюць урачыста адчыніць дзесь на пачатку ці напрыканцы чэрвеня. Але я і зараз праз дзень – другі наведваюся да яе, балазе жыву поблізу. Звычайна раблю вечаровыя шпацыры. Мне цікава глядзець, як з кожным днём знікаюць з яе рыштаванні, як упарадкоўваюцца і пераўвасабляецца наваколле.

Мяне з гэтых агледзінаў цікавіла і цікавіць адно: афармленне фасада бібліятэкі пры ўваходзе ў яе. А рэч у тым, што фасад пры ўваходзе акаймаваны з двух бакоў дзвюма велізарнымі плітамі, якія сімвалізуюць разгорную кнігу. А на гэтым развароце мудрасць вякоў: праз формулы і ерогліфы, наскальныя знакі. Нямала на тых плітах-разваротах і выказванняў прарокаў розных пакаленняў пра сэнс і сутнасць жыцця. Сярод іх накрэслены і бессмяротна-абачлівае Багушэвічава папярэжанне-засцярога: "Не пакідайце ж мо-вы нашай беларускай, каб не ўмерлі".

Ці трэба казаць, якое пачуццё ахоплівае мяне ад усведамлення, што гэтыя шчымліва засцярагальныя словы з "Прадмовы" да "Дудкі Беларускай " Мацея Бурачка з школьных падручнікаў і хрэстаматый вырваліся на фасад сацыяльна значнага будынка, імя якога Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Яшчэ адным цягне да сябе новая бібліятэка: яна забудавана на маім колішнім агародчыку. Пра гэта шмат хто ведае. Нават хтось экспромт пра гэта склаў:

*У Валодзі на гароддзе*
*Вялізную бібліятэку*
*збудавалі.*

А знаная паэтка з нацыянальнай бібліятэкі Людка Сільнова гэтаму факту цэлы верш прысвяціла.

*Шаноўнаму сп. Уладзіміру з удзячнасцю за мілы жарт!*
*Аўтарка Л. Сільнова.*

### Гарбуз-бібліятэка

*Амаль пад Мінскам,*
*На гародах Содаля*
*Гарбуз вялізны*
*Вырас – вымкнуў сёння.*

*Гуркі, парэчкі –*
*У бакі рассунуў ён.*
*Дамкі і печкі,*
*І людзей зажураных...*

*Цар жыццяў іхных!*
*З залатымі рэбрамі –*
*Дом, поўны кнігаў,*
*Як гарбуз той з семкамі.*

*Бібліятэка!*
*Сіла супраць ворага!*
*А кнігі – рэкі,*
*Усё нясуць у мора бо.*

Гэтак неяк нязмушана новая нацыянальная бібліятэка ўпісалася ў мой жыццёвы летапіс.

***P.S.*** Неяк нядаўна рабіў чарговы абход-агляд падворка новай бібліятэкі і зрабіў для сябе яшчэ адно адкрыццё. Поблізу ўваходу на бібліятэчны падворак ля старых лістоўніц ёсць стэла, а на ёй надпіс, што гэты бібліятэчны парк заклаў першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Дата закладкі 13-га верасня. А трынаццатага верасня – гэта якраз дзень маіх народзінаў...!

***Уладзімір Содаль.***

# Алесь Ліпень – Чалавек і Мастак

**30 траўня памёр мастак і скульптар Алесь Іванавіч Ліпень. Газета "Наша сло-ва" у нумары ад 5-га красавіка бягучага года змясціла партрэтны нарыс пра гэтага чалавека.**



Была сярэдзіна сакавіка. Мы загадзя дамовіліся аб сустрэчы па тэлефоне. Па голасе спадара Алеся адчувалася, што ён моцна хварэе. Дыхалася яму цяжка, таму словы гучалі ціха і невыразна.

Гадоў з дзесяць назад мне давялося быць у творчай майстэрні мастака. Тады гэты чалавек быў яшчэ поўны сіл. Аднак асабліва негаваркі. Маючы паважную постаць, рухаўся няспешна, пераходзячы ад карціны да карціны, тлумачыў, адказваў на пытанні. Звяртала на сябе ўвагу яго, так бы мовіць, акадэмічнасць. Менавіта такім і павінен быць прызнаны маэстра пэндзля. Само аблічча раскрывала духоўнае багацце асобы...

Цяпер перада мной стаяў нібыта той жа чалавек. Але прыгорблены цяжарам пражытых 80 гадоў і абяссілены хваробай. На журнальным століку стаяў сподак, запоўнены таблеткамі. Спадар Алесь вострым вокам мастака пабачыў мой погляд, сумна ўсміхнуўся:

— Такое цяпер маё жыццё.

Пакоі кватэры былі запоўнены карцінамі. Яны былі развешаны па сценах, стаялі ў падрамніках на падлозе, шчыльна падагнаныя адна да адной. Усе гэта стварала ўражанне знаходжання ў карціннай галярэі. Веснавое сонца шчодра расквеціла сваімі праменямі пейзажы і яны зайгралі колерамі вясёлкі...

Ідучы на сустрэчу, напярэдадні сабраў звесткі пра Алеся Іванавіча. Нельга сказаць, што яго абыходзілі ўвагай. Былі публікацыі ў зборніках, часопісах, газетах ды буклетах ("Памяць. Гродна", "Пагоня", "Гродзенская праўда", "Літаратура і мастацтва", "Культура", інш.). Год нараджэння – 1926. Месца нараджэння – вёска Баркі Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Некалькі разоў выбіраўся дэпутатам Гарадзенскага гарадскога Савета. Працаваў майстрам турбіннага цэха электрастанцыі.

У мастацтве выявіўся як жывапісец, скульптар, разбяр. Стварыў цэлую партрэтную галярэю славутых людзей Гарадзеншчыны і Беларусі ў цэлым (кіраўнікоў паўстання 1863/64 гадоў, літаратараў Цёткі, Я.Чачота, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, М. Гусоўскага, Ф. Скарыны, Я. Карскага, А.Цяжкага, генерала Антонава, партызанкі В. Соламавай, народнага артыста Р.Шырмы і дзесяткі іншых). Стваральнік шматлікіх паркавых скульптур у Гародні, Навагрудку, Астраўцы, Беняконях.

Сваё адчуванне хараства прыроды, непаўторнасці роднага краю перадаў з дапамогай сакавітых фарбаў у карцінах, колькасць якіх сам пазначыў – "дзесьці каля тысячы". Пейзажы Алеся Ліпеня ёсць у музеях і прыватных калекцыях краін былога СССР, ЗША, Ізраіля, Германіі...

Пачынаючы з 1950 года, ён удзельнічаў у міжнародных выстаўках твораў самадзейнага выяўленчага мастацтва, у тым ліку у Маскве і Бруселі, не кажучы пра рэспубліканскія і абласныя выстаўкі народнай творчасці, плянэры Неадназова прызнаваўся лаўрэатам фестываляў, узнагароджваўся дыпломамі і Ганаровымі граматамі.

Адным словам, тэмаў для размовы было шмат. Гаспадар прыгадаў, што бацькі па веравызнанні былі каталікамі. Сям'я мела 40 гектараў зямлі. Аднак напаткаў злы лёс. Бацька і дзядзька былі знішчаны Савецкай уладай як "ворагі народа". Маці памерла ў 1945 годзе. Алеся ў арміі вывучылі на шафёра. Праслужыў шэсць гадоў.

Алесь Ліпень меў у сваёй дамашняй бібліятэцы старанна падабраныя кнігі. Канешне, найбольш твораў пра мастацтва. Але ёсць і ўнікальныя экземпляры. Маю на ўвазе з уласнаручнымі надпісамі ахвяравальнікаў. Мастак з гонарам паказаў кнігу з аўтографам жонкі Янкі Купалы – Уладзіславы Францаўны: *"Паважанаму таварышу Ліпеню ад літаратурнага музея Янкі Купалы. 16.04.1959"*. У гэты год У.Ф. Луцэвіч, кіраўніца гэтага мемарыяльнага музея, была ў Гародні і ёй паказалі скульптурную работу А. Ліпеня "Гусляр". Твор так спадабаўся жонцы класіка беларускай літаратуры, што яна адразу запрасіла аўтара ў Менск "для далейшых перамоваў аб набыцці разьбярнай работы ў якасці экспаната музея". Твор і цяпер знаходзіцца там, адлюстраваны ў многіх даведніках пра Я. Купалу.

— Гэты вобраз мне навеяла паэма Купалы "Пясняр". Раней па радыё часта чыталі творы вядомых пісьменнікаў.

Фотаздымкі сведчаць, што майстэрню мастака наведвалі многія вядомыя асобы як з блізкага, так і далёкага замежжа. Алесь Ліпень быў знаёмы з многімі беларускімі пісьменнікамі. Асабліва ўзгадваў Зоську Верас, якую не раз наведваў разам з іншымі гарадзенцамі.

Са шкадаваннем прызнаўся, што меў магчымасць вучыцца ў Акадэміі мастацтваў у Менску. Вядомы скульптар А. Бембель асабіста запрашаў да сябе ў вучні. Але сямейныя клопаты не дазволілі адшліфаваць талент...

Ён паказваў карціны, распавядаў пра мясціны блізу Гродна, адзначаў, калі і куды ездзіў на эцюды, паказваў сямейныя фотаздымкі, дзяліўся ўспамінамі. Гэта быў сапраўды багаты на жыццёвыя падзеі чалавек. Яго ведалі многія і ён зняўся шмат з кім. І тыя, хто пакуль застаецца на гэтым свеце, будуць памятаць добрага і незласлівага Мастака, цікавага суразмоўцу, грамадзяніна і годнага Беларуса.

Я ж ганаруся тым, што лёс двойчы сутыкаў мяне з гэтым чалавекам. Алеся Ліпеня ўжо няма сярод нас — гэта праўда. Ён пайшоў у далёкі Сусвет. Але справядлівым будзе і тое, што ён застаўся ў сэрцы кожнага, хто быў знаёмы з ім.

***Антон Лабовіч,***
***Гародня.***

# Дыпламату і на свяце не адпачыць

Менская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў – адна з немногіх у нашай краіне навучальных устаноў гэтага профілю, якая багатая на ўласную галярэю. А ўласная выставачная прастора гэта магчымасць прапагандаваць творчасць выкладчыкаў і навучэнцаў, даводзіць шырокай грамадзе дасягненні ў навучальным працэсе. Дзеля гэтага, ўласна кажучы, яна і была створана. Калі-нікалі галярэю наведваюць чыноўнікі міністэрстваў і гарадской адміністрацыі, якія мусяць клапаціцца пра культуру і адукацыю. А днямі гасцямі галерэі былі супрацоўнікі амбасады Германіі начале з амбасадарам доктарам Марцінам Хэкерам ды іншыя прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса. Нагодаю для візіту стала адкрыццё персанальнай выставы нямецкай мастачкі Рэнаты Відэман-Драйер. Спадарыня Рэната знаходзіцца ў Беларусі ўжо пяць год. Яе муж Штэфан Драйер – аташэ пасольства. У хуткім часе канчаецца тэрмін ягонай працы ў нашай краіне. Гэтай выставай, што мае назву **"...to say good bye"**, муж і жонка Драйер развітваюцца з Рэспублікай Беларусь.

Рэната Відэман-Драйер па адукацыі архітэктар, мае пэўны досвед у жывапісе і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. У Менску яна далучылася да міжнароднага творчага аб'яднання "Батык-клуб", як сябра клуба брала ўдзел ў шэрагу выстаў. Гэтым разам экспазіцыя складаецца з рознасюжэтных і рознастылёвых батыкаў, а таксама акварэляў, на большасці якіх адлюстраваны мясціны, ў якіх спадарыні Рэнаце давялося пабываць. На вернісажы мастачка гаварыла цёплыя словы пра нашу краіну і сваіх менскіх сяброў.

Прысутнасць на імпрэзе кіраўніка дыпламатычнай місіі Германіі не прайшла па-за ўвагаю журналістаў. Спадар Хэкер прыйшоў на свята, а давялося працаваць – даваць імправізаванае інтэрвію. Журналістаў, у прыватнасці, цікавіла ягоная ацэнка эфектыўнасці палітыкі Еўрасаюза ў адносінах да Беларусі. Спадар Хэкер адказаў, што рашэнні прымаліся ў Брусэлі, што гэта ўзгодненая пазіцыя краін Еўрасаюза, што аргументацыя, на падставе якой рашэнні прыняты, агучана. Час пакажа, наколькі такая палітыка эфектыўная.

А мо не варта было закрываць беларускім чыноўнікам шлях ў Еўропу: хай бы ездзілі, глядзелі, вучыліся..? Яны, на думку амбасадара, дастаткова паездзілі на Захад, і як афіцыйныя асобы, і прыватным чынам – але рэаліі заходняй цывілізацыі ніяк не паўплывалі на іхні менталітэт.

Што думае спадар амбасадар пра тое, што шэраг беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у краіны Еўрасаюза, дэкларавалі намер скардзіцца на Еўропу ў еўрапейскія ж структуры? Цікава, як гэта будзе выглядаць і што з гэтага атрымаецца, адказаў доктар Хэкер.

Ці варта чакаць ў бліжэйшы час ў Беларусі змен на карысць грамадзянскай супольнасці? Гэтае пытанне вы мусіце задаць самі сабе, сказаў амбасадар. Беларусы ведаюць, на якім цвіку яны сядзяць – ім жа і вырашаць, колькі яшчэ часу знаходзіцца ў гэтым стане.

Дыпламату і на свяце не адпачыць...

***Вераніка ВЕРНІК.***

# Крыжаванка
## "Мой родны кут, як ты мне мілы..."
## Слуцку - 890

**Складальнік Лявонцій Целеш, г. Дзяржынск**



**Па гарызанталі:**

5. Вёска ў Першамайскім с/с, сястра Хатыні. Спалена разам з жыхарамі ў 1943 г., увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

6. Гасцініца ў дарэвалюцыйнам Слуцку, будынак якой (архітэктурны помнік) быў знесены ў недалёкім мінулым.

8. Культавая навучальная ўстанова, якая была заснавана ў Слуцку ў 1785 г., а ў 1840 г. пераехала ў Менск.

11. Высокае (да 40 м. вышыні) дрэва з шэрай карой, якое сустракаецца ў лясах Случчыны.

15. "Народны..."- газета, орган слуцкага падпольнага райкаму КП(б)Б, якая выдавалася ў часы акупацыі Случчыны ў ВАВ.

16. Капітан старадаўняга драўлянага карабля-віціны, на якім слуцкія купцы вывозілі для продажу свае тавары па Случы і Нёману.

17. Ляжыць сярод градкі зялёны і гладкі (заг.).

21. Каменныя прылады працы для апрацоўкі скур і вырабаў з дрэва. Былі знойдзены археолагамі А.М. Ляўданскім, С.А. Дубінскім і інш. сярод іншых рэчаў у час раскопак гарадзішчаў і паселішчаў на тэрыторыі Случчыны.

22. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Случчыне ў Вял. Айч. вайну.

23. Металічнае пакрыццё паверхні абразоў.

26. Таленавіты майстар, які кіраваў у 18 стаг. заснаванай Міхаілам Казімірам Радзівілам мануфактурай. Пры гэтым майстры ўзнік тып пояса, які атрымаў назву слуцкага.

27. Жанчына – легенда. Княгіня, якая мужна абараняла землі Случчыны ад набегаў ворагаў-іншаземцаў. У гісторыі вядома і пад іншым імем.

28. Беларускі гастраэнтэролаг і дыетолаг, доктар медыцынскіх навук, прафесар, ураджэнец Случчыны. Аўтар навуковых прац па кардыялогіі, дыеталогіі.

**Па вертыкалі:**

1. Вёска ў былым Слуцкім павеце (цяпер Капыльскі р-н), у наваколлі якой вяліся асабліва жорсткія баі восенню 1920 г. паміж паўстанцамі і войскамі Чырвонай Арміі.

2. Беларускі вучоны-хімік, доктар хімічных навук, ураджэнка Случчыны.

3. Беларускі песьменнік, нарадзіўся на Случчыне. Аўтар зборнікаў вершаў для дзяцей "Мы дзеці шахцёраў", "Ясь, жалейка і вясна" і інш.

4. Беларускі паэт, ураджэнец Случчыны. Аўтар зборніка вершаў "Церні", паэм "Пагоня", "Рагнеда", рамана ў вершах "Алесь Няміра" Быў рэпрэсаваны.

7. Беларускі вучоны-матэматык, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, ураджэнец Случчыны. Галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута матэматыкі Нацыян. Акад. Навук Беларусі.

9. Беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар, аўтар шматлікіх прац па гісторыі Слуцка і Слуцкага паўстання: "Слуцк: гісторыка-эканамічны нарыс", "Старажытны горад на Случы", "Вакол "Слуцкага паўстання" і інш.

10. Палітычны і культурны дзеяч ВКЛ, магнат, абаронца праваслаўя. Яго маці паходзіла з дома слуцкіх князёў Алелькавічаў, бацька – найвышэйшы гетман ВКЛ, з'яўляўся заснавальнікам школ у Слуцку, Тураве і інш. месцах.

12. Назва тэатра лялек Цэнтра дзіцячай творчасці, удзельнік абласных і рэспубліканскіх канкурсаў, фестываляў.

13. Слуцкі пастар 19 ст. які меў унікальную бібліятэку ўсходнеславянскіх старадрукаў, якую запавядаў роднаму гораду Слуцку.

18. Белар. гісторык, д-р гістарычн. навук, прафесар, ураджэнец г. Слуцка. У 1973-80 гг. быў сакратаром Менскага абкама КПБ.

19. Найменаванне пасады кіраўніка старэйшай на Беларусі навучальнай установы Слуцкай кальвіністкай навучальні, якая заснавана ў пачатку 17 стаг.

20. Герой Савецкага Саюза, ураджэнец Случчыны, удзельнік грамадзянскай вайны. У часы ВАВ вызначыўся ў бітве за Дняпро ў 1943 г. загінуў у баі пры вызваленні Польшчы. Яго імем названы вуліцы ў Слуцку і ў роднай вёсцы Лапацічы.

24. "Слуцкія..." Ансамбль, створаны ў в. Лучнікі. Неаднаразова выступаў у Германіі, Турцыі. Званне народнага прысвоена ў 1993 г.

25. Значныя дасягненні Случчыны ў скарбніцу Беларусі ў галіне навукі, культуры, абароны Радзімы і г. д. ад старажытных часоў да нашых дзён (перан.).

# ІСНАСЦЬ

У выдавецтве "Чатыры чвэрці" пабачыла свет кніжка вершаў Фелікса Шкірманкова "Існасць". Аўтар – актыўны сябра Таварыства беларускай мовы. І таму нам прыемна павіншаваць яго праз газету з новым літаратурным набыткам і пажадаць далейшага плёну ў творчасці.




Уступнае слова да кнігі напісаў вядомы паэт Сяргей Законнікаў. Ён з вялікай павагай і цеплынёй гаворыць пра аўтара кнігі, няпросты жыццёвы шлях, ісці па якім яму заўсёды дапамагала і дапамагае цяга да прыгожага пісьменства. Ён, горны інжынер-геолаг, піша з маладосці, але ніколі не спяшаецца свае творы выносіць на суд чытача. Добры кавалак жыцця прайшоў у Расіі. Зразумела, у той час пісаў па-руску. Яго пяру належаць кніжкі: "Кто обидел медведя", дакументальная аповесць "Выпрабаванне", "зборнік для дзяцей "Незвычайны каляндар", зборнік вершаў "Через годы, через расстояния". Але кніжка, пра якую сёння ідзе гаворка, цалкам на беларускай мове.

Фелікс Шкірманкоў не імкнецца здзівіць чытача формай. Ён піша пра гісторыю свайго народа, родную мову, пра вяскоўцаў, прыроду роднага краю – проста і зразумела. Уздымае праблемы сённяшняга дня. Болем за беларускую мову прасякнутыя паэтычныя радкі шмат якіх вершаў.

*Галоўная святыня – гэта мова.*
*Няма яе – і людзі проста зброд,*
*Таму заўжды за матчынае слова*
*Трымаецца ў жыцці любы народ.*

Сяргей Законнікаў завяршае свой уступны артыкул словамі: "Тут маецца грамадзянская, патрыятычная перакананасць, шчаслівы сплаў думкі і споведзі, спагадлівая душэўная цеплыня, вясёлыя інтанацыі, добразычлівы гумар, а ў цэлым – ненавязлівы, надзвычай неабходны сёння нашаму грамадству, гуманістычны і аптымістычны пафас. Фелікс Шкірманкоў гаворыць з чытачом натуральна, свабодна, захоплена і шчыра, у чым і заключаецца асноўная вартасць гэтай кнігі."

*Вершы мае – гэта сэрца ўдары,*
*Гэта надзеі і светлыя мары.*
*Вершы мае – гэта родны мой кут,*
*Людзі, што зведалі пекла пакут.*
*Вершы мае – гэта боль і адчай*
*За Беларусь, за знясілены край.*
*Вершы мае – гэта крык чалавечы*
*І між людзей і нібыта ў пустэчы.*
*Вершы мае – гэта крыж мой да скону,*
*Да пахавальнага ціхага звону.*
*З імі ўваскрэсну, душой не памру,*
*Каб толькі ўбачыць – ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!*
23 жніўня 1995 г.

*Наш кар.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5. 06. 2006 г. у 10.00. Замова № 1303.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2100 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1290 руб., 3 мес.- 3870 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.